*«Святая Зямля – якая ж ты! Менавіта таму не магу па табе ступаць, павінен укленчыць...»*

*Ян Павел II*

***Ерузалем. Базыліка Святога Гробу.***



№ 3 (58)
2000

*...Урэшце Маё Беззаганнае Сэрца затрыумфуе (з аб'яўленняў Маці Божай у Фаціме)*

# Ave Maria

ЧАСОПІС МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЙ АРХІДЫЯЦЭЗІІ








# ПАГЛЫБЛЕНЫЯ Ў ГАЛГОФУ

**У розных сітуацыях, у розных геаграфічных шыротах і ў розны час паўтараецца Галгофа, у якой мы бярэм удзел. Уцёкі ад гэтай Праўды мала што зменяць. Барацьба з Крыжам не прынясе ніякай карысці. Адрынуты, ён вяртаецца разам з пытаннем пра сэнс чалавечага жыцця, пра мэту яго шляху, пра таямніцу несправядлівасці, пра апраўданне цярпення, пра моц любові.**

Сёння таксама ёсць месцы на зямлі, дзе раздаецца свіст бізуна, які апускаецца на бязвінных; жаўнеры паслухмяна выконваюць загады, нічога не пытаючыся, згаджаючыся нават на генацыд; пілаты падпісваюць фальшывыя прысуды, баючыся страціць пасаду; чарговыя лжэсведкі прысягаюць мане; хтосьці самотна канае на сваім крыжы на вачах абыякавага натоўпу разявакаў...

Такім чынам, на Галгофу не трэба нікога запрашаць спецыяльна. Усе мы яе ўдзельнікі, усе ў яе паглыбленыя. Трэба толькі сабе ўсвядоміць, што праз яе вядзе шлях кожнага чалавека, і зразумець, што яна патрэбная, як Крыжовы шлях Езуса. (...)

Кожны шлях для хрысціяніна — гэта фрагмент Крыжовага шляху. (...)

Прыняць крыж – гэта значыць прыняць кожны дзень такім, якім ён ёсць, успрыняць – не падаючыся – працу і заданні, якія прыносіць нам жыццё. Праўда, можна, шукаць шляхі ўцёкаў з Галгофы, толькі куды яны завядуць? «Хто не нясе крыжа свайго і йдзе за Мною, той не можа быць вучнем Маім» (гл. Лк 14, 27). Езус, запрашаючы нас да супрацоўніцтва, сваім крыжам дапаўняе нашу працу і намаганні. Ён гаворыць: «Прыйдзіце да мяне ўсе спрацаваныя і прыгнечаныя, і Я супакою вас. Вазьміце ярмо маё на сябе і навучыцеся ад мяне, бо я лагодны і пакорлівы сэрцам; і знойдзеце спакой для душ вашых; бо ярмо маё добрае і цяжар мой лёгкі» (гл. Мц 11, 28-30).

*Кс. Анджэй ЗВАЛІНЬСКІ*



*«Я з вамі ажно да канца свету»* (гл. Мц 28,20)

# Пасланне Папы Яна Паўла II на Вялікі пост 2000г.

Браты і сёстры!

Перажыванне Вялікага посту – часу навяртання і паяднання – набывае ў гэтым годзе вельмі асаблівы характар, бо яно ўпісана ў Вялікі Юбілей 2000 г. Перыяд Вялікага посту з'яўляецца галоўным этапам шляху навяртання і паяднання, які Юбілей – год ласкі ад Пана – паказвае ўсім веруючым, каб яны маглі аднавіць сваю лучнасць з Хрыстом і з новым запалам абвяшчаць Яго таямніцу збаўлення ў чарговым тысячагоддзі. Вялікі пост дапамагае хрысціянам глыбей зразумець гэты «таямнічы план, укрыты ад вякоў» (пар. Эф 3,9), схіляе іх да суаднясення сябе са Словам Бога і наказвае ім адрачыся ад уласнага эгаізму, каб адкрыцца для збаўчага дзеяння Духа Святога.

«Мы былі мёртвыя ў выніку грэху» (пар. Эф 2, 5) – так св. Павел апісвае сітуацыю чалавека без Хрыста. Вось чаму Божы Сын пажадаў прыняць людскую натуру, вызваляючы яе з няволі граху і смерці.

Чалавек штодзённа спазнае гэтую няволю, адчуваючы, што найглыбейшыя яе карані знаходзяцца ў яго ўласным сэрцы (пар. Мц 7, 11). (...) Чалавецтва пазначана грахом. Яго драматычнае становішча перадае нам поўны неспакою вокліч Апостала Народаў: «Няма справядлівага, нават і аднаго» (Рым 3,10; пар. Пс 13,3).

На змрочным фоне грэху і няздольнасці чалавека вызваліцца ўласнымі сіламі поўным бляскам зззяе збаўчая справа Хрыста: «Яго Бог устанавіў прыладаю перапрашэння праз веру моцаю Яго крыві. Гэтым хацеў паказаць сваю справядлівасць» (пар. Рым 3, 25). (...) Айцы Касцёла абвяшчаюць, што ў Езусе Хрысце шатан атакуе ўсё чалавецтва і пагражае яму смерцю, ад якой яно вызвалена, дзякуючы параможнай моцы змёртвыхпаўстання. У змёртвыхпаўсталым Пану знішчана моц смерці, а чалавек атрымлівае магчымасць дасягнуць праз веру камуніі з Богам. Таму, хто верыць, даецца жыццё самога Бога праз дзеянне Святога Духа, які з'яўляецца «першым дарам для веруючых» (пар. IV Эўхарыстычная Малітва). Таму адкупленне, якое адбылося на крыжы, аднаўляе сусвет і здзяйсняе паяднанне Бога з чалавекам, а таксама людзей паміж сабою.

Юбілей – гэта час ласкі: у ім мы пакліканыя, каб асаблівым чынам адкрыцца для міласэрнасці Айца, які ў Сыне схіліўся над чалавекам, і для паяднання – вялікага дару Хрыста. Таму гэты Год павінен стаць для хрысціянаў, а таксама для ўсіх людзей добрай волі, каштоўнай нагодай для спазнання аднаўляючай моцы Бога, які адорвае прабачэннем і паяднаннем. Бог ахвяруе сваю міласэрнасць кожнаму, хто хоча яе прыняць, нават калі ён далёка і знаходзіцца ў роспачы. Такім чынам сучаснаму чалавеку, стомленаму паўсядзённасцю і ілюзіямі, даецца магчымасць ступіць на шлях, які вядзе да паўнаты жыцця. У такім кантэксце Вялікі пост Святога 2000 Года з'яўляецца ў найвышэйшай ступені «прыемным часам, днём збаўлення» (пар. 2 Кар 6,2), нагодай, якая асаблівым чынам садзейнічае «паяднанню з Богам» (пар. 2 Кар 5,20). (...)

Ласка Юбілею заахвочвае перадусім да аднаўлення асабістай веры. Яна грунтуецца на прыняцці паслання аб пасхальнай таямніцы, дзякуючы чаму хрысціянін прызнае, што ва ўкрыжаваным і змёртвыхпаўсталым Хрысце ён атрымлівае збаўленне: штодзённа аддае Яму ўласнае жыццё; прымае ўсё, што Пан яму спасылае, упэўнены, што Бог яго любіць. Вера – гэта «так», сказанае чалавекам Богу, гэта яго «Амэн». (...)

Праз ласку Юбілею Пан заклікае нас таксама ажывіць нашую надзею. Бо ў Хрысце сам час адкуплены і адкрываецца на перспектыву бясконцай радасці і поўнай камуніі з Богам. (...)

Урэшце, праз Юбілей Бог наказвае нам нанова абудзіць нашу любоў. Валадарства, якое Хрыстус аб'явіць у поўным зззянні напрыканцы вякоў, ужо цяпер прысутнічае там, дзе людзі жывуць згодна з воляй Бога. Касцёл пакліканы сведчыць аб камуніі, спакоі і любові, якія яго вылучаюць. Хрысціянская супольнасць выконвае гэту місію, усведамляючы, што вера без учынкаў – мёртвая (пар. Як 2, 17). (...)

У час Вялікага посту ўсе – багатыя і бедныя – пакліканыя, каб ажыццяўляць любоў Хрыста праз велікадушныя справы любові. У Юбілейным Годзе наша любоў да бліжняга павінна выяўляцца асаблівым чынам праз аказванне Хрыстовай любові братам, якім не хапае неабходных сродкаў для жыцця, церпячым голад, насілле і несправядлівасць. Гэта шлях рэалізацыі памкненняў да вызвалення і братэрства, выказаных ужо ў Святым Пісанні, а сёння зноў узгаданых у сувязі са Святым Годам. Бо старажытны габрэйскі юбілей наказваў вызваляць нявольнікаў, дароўваць даўгі, дапамагаць бедным. (...)

Няхай тысячагоддзе, якое распачынаецца, будзе эпохай, у якой заклік так многіх людзей, нашых братоў, якія не маюць нават таго, што неабходна для існавання, будзе ўрэшце пачуты і сустрэнецца з братнім адказам. Спадзяюся, што хрысціяне стануць у розных сферах ініцыятарамі канкрэтных дзеянняў, якія забяспечаць справядлівы падзел дабротаў і кожнаму чалавеку дадуць магчымасць інтэгральнага развіцця.

«Я з вамі ажно да канца свету«. Гэтыя словы Езуса пераконваюць нас, што мы не самотныя, калі абвяшчаем і ажыццяўляем Евангелле любові. Таксама падчас Вялікага посту 2000 Года Хрыстус заклікае нас вярнуцца да Айца, які чакае нас з адкрытымі рукамі, каб учыніць нас жывымі і пераканальнымі знакамі Яго міласэрнай любові.

Марыі, Маці кожнага церпячага чалавека і Маці Божай Міласэрнасці, даручайма нашыя намеры і пастанаўленні. Няхай Яна будзе зоркай, якая асвятляе наш шлях у новае тысячагоддзе.

Выказваючы гэтыя пажаданні, прашу для ўсіх у малітве благаславенне Бога ў Тройцы Адзінага, які ёсць пачаткам і завяршэннем усяго і якому «ажно да канца свету» ўзносіцца гімн удзячнасці і праслаўлення: «Праз Хрыста, з Хрыстом і ў Хрысце, Табе, Божа Ойча усемагутны, у еднасці Духа Святога, уся пашана і хвала праз усе вякі вечныя. Амэн».

*Ян Павел II*
*Кастэль Гандольфо,*
*21 верасня 1999г.*

меркаваць, узгадніць, аформіць прапановы, праекты — і прадстаўнік Нацыянальнага Сходу вынясе ўсё гэта на разгляд Урада і Прэзідэнта. (Прэрагатыва стварэння законаў, паводле дзяржаўных і канстытуцыйных устанаўленняў нашай краіны, належыць ім.)

І можна спадзявацца, што згода будзе дасягнутая.

У кожным выпадку айцец Ігар Лашук, напрыклад, імкнуўся пераканаць прысутных у карысці сваіх пачынанняў. Ён запрасіў усіх удзельнікаў семінара пасля пленарных паседжанняў паслухаць спевы сваіх выхаванцаў пад акампанемент гітары.

Пакуль што яму і зарэгістраванай у жніўні мінулага года моладзевай Асацыяцыі імя Яна Боскі ў Беларусі (як часткі сусветнай) забаранілі ўладкаванне спорткомплексаў у Серабранцы. Не сустрэлі заканадаўчай ухвалы і іншыя ініцыятывы арганізацыі: стварэнне навукова-практычнага цэнтра, курсаў гуманітарных навук — гісторыі, замежных моў, філасофіі, тэалогіі. Усё гэта, паводле агульнай накіраванасці дзейнасці Асацыяцыі ва ўсім свеце, зарыентавана на маламаёмасных людзей, усё — бясплатна.

Ва ўмовах сённяшняга эканамічнага стану краіны і ўзроўню жыцця нашага грамадства — у большасці сваёй — такім ініцыятывам цаны няма. Ва ўмовах бясконцых адмоўных уплываў: «вуліцы» ў горшых яе праявах, крымінальных элементаў, неспрыяльных сітуацый... У час, калі вывучэнне замежных моў у многіх школах Мінска — пад пагрозай: няма настаўнікаў.

Дарэчы, спорт і фізкультура ў нашай краіне — у пашане. Чаму ж не паспрыяць хлопцам і дзяўчатам прыйсці ў бясплатныя залы, да бясплатных трэнажораў?.. Рэлігія — асобна. Спорт — асобна. А я згадваю вядомага аўтагоншчыка Міхаэля Шумахера, які цалуе пярсцёнак Яна Паўла ІІ... А футбалісты з Іспаніі, Італіі, Лацінскай Амерыкі, якія не выйдуць на поле, не перажагнаўшыся? І таксама — шлях іх да вялікіх футбольных спаборніцтваў часта пачынаўся ад школах парафіяльных касцёлаў...

Адраджаецца хрысціянства, і волею Провіду большасць нашых святароў — маладыя, адукаваныя, энергічныя. Гэтая моц патрэбная людзям. І святары палымнеюць жаданнем у сваім высокім служэнні Касцёлу — дапамагчы людзям!

**...Неўзабаве — новы семінар Міжканфесійнай рабочай групы. Працуе камісія.**

**Будзем жыць спадзяваннямі. Паводле асноўнага Закону, паводле Евангелля. Вернік Хрыстовы і ўсе людзі добрай волі, «на якіх нябачным чынам уздзейнічае ласка Божая».**

*Альбіна СЯМЁНАВА*

## У чарговым нумары часопіса «НАША ВЕРА» (4-99):




- Энцыкліка Яна Паўла ІІ *Fides et ratio*
- Да Юбілею 2000 Года — У. Конан *«Біблейскія і хрысціянскія матывы ў беларускай літаратурнай традыцыі»*,
  А. Яроменка *«Напачатку было Слова...»*
- У свеце Бібліі — Г. Сініла *«Кніга, роўная Сусвету»*
- Паэзія Таісы Бондар
- Мастацтва – *«І нарадзіла Сына Свайго...»* – сюжэты Божага Нараджэння ў старабеларускім мастацтве.
  Т. Ліхач. *«Каталіцкія кляштары і развіццё музычнай культуры Беларусі»*.
- Проза – Г. Сянкевіч *«Quo vadis»*
- Іншыя матэрыялы для тых, каго цікавяць традыцыі каталіцызму ў нацыянальнай культуры



Сцены Навагрудскай Фары, якія бачылі многае за гісторыю свайго існавання, у тыя ліпеньскія дні 1943 года напоўніліся ціхай і шчырай малітвай. З вуснаў не сыходзілі таксама трывожныя пытанні:

Калі ж скончацца арышты?

Калі людзі змогуць спаць спакойна?

Калі скончыцца гэта страшная вайна, якая патрабуе столькі ахвяраў?

Сястра Стэла і 11 назарэтанак не пераставалі паўтараць: «Божа, прымі нашую ахвяру, прымі, Божа...»

Сёстры не маглі забыць ні на хвіліну, не маглі адарваць сваіх думак ад лёсаў сотняў людзей, ад лёсаў многіх знаёмых, якім ў тыя ліпеньскія дні гестапа вынесла смяротны выrак. «Мой Божа, калі патрэбна ахвяра з жыцця, хай лепш нас расстраляюць, чым тых, што маюць сем'і», — прасілі яны.

Навагрудак жыў у чаканні. Што будзе з усімі арыштаванымі, ці жывыя яны яшчэ?



# «НЯХАЙ СТАНЕЦЦА ВОЛЯ ТВАЯ, БОЖА...»

Маці і жонкі прыходзілі да сясцёр і са слязьмі на вачах расказвалі пра сваё гора. А сёстры маліліся. Яны ведалі, што ўжо некалькі дзён гестапа шукае таксама ксяндза Аляксандра Зянкевіча — адзінага навагрудскага святара, які яшчэ быў жывы.

«Божа, — шаптала сястра Стэла, а за ёю паўтаралі сэрцы сясцёр, — ксёндз-капелян больш патрэбны на гэтай зямлі, чым мы, таму просім: калі патрэбна далейшая ахвяра — прымі нас».

Надышоў апошні дзень ліпеня 1943 года. Быў пасляабедзенны час. Ксёндз Зянкевіч рыхтаваўся да набажэнства. Сястра Імэльда запальвала свечкі, выносіла на касцёл манстранцыю... У гэты момант у закрыстыю ўвайшла сястра Стэла — настаяцельніца Навагрудскага кляштара. Яна паведаміла, што да сясцёр прыйшоў немец у цывільным адзенні і перадаў, каб усе сёстры на чале з настаяцельніцай у 19.30 з'явіліся ў камендатуру.

— Гэта ўжо хутка, — сказала сястра Стэла і спытала ў ксяндза Зянкевіча, як лепш зрабіць?

— А што сястра сама думае аб гэтым? — запытаў ксёндз.

— Думаю, што нас могуць вывезці на работы ў Германію.

— Гэта магчыма, гэта больш чым праўдападобна, — адказаў ксёндз Зянкевіч, каб трохі супакоіць сястру.

Роўна ў 18.00 пачалося выстаўленне Найсвяцейшага Сакраманту і Ружанец. Сёстры, як заўсёды, былі на сваіх месцах, кленчылі наперадзе, перад алтаром. Яны ў гэты вечар былі спакойныя, засяроджаныя на малітве, хоць праз некалькі хвілін павінны былі ісці ў гестапа. Святар узняў над імі — перш за ўсё над імі — Святыя Дары, благаслаўляючы іх.

Выйшлі з касцёла і няспешна пайшлі спачатку па сваёй вуліцы, потым праз галоўную гарадскую плошчу. Людзі здзіўлена пыталіся, куды ідуць сёстры ў такі час? Але на тварах сясцёр была ўсмешка, нішто не выдавала іх трывогі. Нізкае ўжо сонца ішло перад імі, яны ішлі ўслед за сонцам. Тужліва і задуменна пазіралі на іх кветкі з гародчыкаў, як бы развітваліся.

Сёстры ўвайшлі ў будынак камісарыяту. Праз некалькі хвілін на калідоры пачуліся жорсткія, адрывістыя пытанні немца і спакойныя адказы сясцёр: дзве з іх размаўлялі па-

нямецку. Яшчэ праз гадзіну да будынка пад'ехаў грузавік, сясцёр вывелі вартавыя і загадалі лезці ў машыну. Фашысты ненавісна смяяліся, гледзячы, як сёстры ў доўгіх габітах з цяжкасцю карабкаюцца праз высокі борт. Грузавік паехаў за горад. Ноч паволі ўваходзіла ў свае правы. Станавілася цёмна. Непадалёк ад таго месца, дзе спынілася машына, былі сялянскія сядзібы. У гэты час людзі заганялі ў хлеў жывёлу, то там, то тут брахалі сабакі. Не, гэта быў не той час. Грузавік вярнуўся ў горад. Сясцёр змясцілі ў падзямеллі камендатуры. Там сёстры прабылі ноч. Гэта ноч мела двух сведкаў (работнікаў камендатуры), якія пазней расказвалі, што сёстры, не маючы магчымасці легчы крыжам усе адначасова, рабілі гэта па чарзе. У 3.00 іх зноў вывезлі, але гэтым разам трохі далей: машына спынілася за 3 км ад горада. Яма была выкапана ў некалькіх сотнях крокаў ад дарогі ў невялікім змешаным лесе...

Сясцёр павялі ў той бок. Віднела. Вакол стаяла цішыня. Цішыня была такая, што нават салдаты стараліся ступаць асцярожна, каб яе не парушыць. Адзін з іх, моцна п'яны, казаў на другі дзень сваёй гаспадыні: «Як яны ішлі, як яны ішлі! Трэба было бачыць, як яны ішлі — вашы сёстры». Ішлі са складзенымі рукамі, спакойныя, поўныя годнасці, лёгкія, як птушкі.

Ішлі насустрач сонцу, якое якраз уставала, вітаючы іх.

Калі яны сталі каля ямы на калені, а іх Маці, іх настаяцельніца, падняўшы руку благаславіла іх, пачуўся першы стрэл.

Сястра Стэла ўпала першая, а за ёю — астатнія сёстры: Імэльда, Раймунда, Даніэля, Канута, Сергія, Гвідона, Фэліцыта, Хэліодора, Канізія і Барамэя.

12-я сястра, Малгажата, засталася ў хаце: яна папрасіла сястру Стэлу, каб па яе прыйшлі, калі гэта будзе неабходна...

Ахвяра, складзеная Богу за братоў, была прынята. Пусты грузавік павярнуў у бок горада. Прачынаўся новы дзень — гэта была нядзеля 1 жніўня 1943 года. У Белай навагradскай Фары ў тую раніцу месцы сясцёр пуставалі.

— Дзе сёстры? — пыталіся адзін у аднаго вернікі. Дзе сёстры? Чаму не вярнуліся? — гэтыя пытанні задавалі сабе кс. А.Зянкевіч і с. Малгажата.

Пасля Св. Імшы ў Фары кс. Зянкевіч пайшоў да касцёла св. Міхала, каб паспавядаць. Хтосьці падышоў да акенца спавядніцы і ціха сказаў: «Сёння раніцою расстралялі сясцёр». Ксёндз не мог у гэта паверыць.

Праз некалькі дзён, калі інфармацыя пацвердзілася і ўтойваць яе было немагчыма, ён сказаў сястры Малгажаце:

— Яны ўжо не вернуцца.

Але сёстры вярнуліся. Амаль што праз два гады: 19 сакавіка 1945 года.

У белых трунах, па белым снезе, што нечакана пакрыў за ноч вуліцы Навагрудка, сёстры вярталіся ў сваю Белую Фару.

Вярталіся, каб праз два гады заняць свае месцы перад алтаром. Вярталіся, каб ужо назаўсёды застацца ў Белай Фары.

Ішлі гады, але людзі не змаглі забыць сваіх сясцёр. Жыхары Навагрудка іх любілі і называлі не інакш, як «нашы сёстры».

Ахвяра сясцёр была мілая Богу: ніводзін з мужчынаў, арыштаваных у тыя ліпеньскія дні, не быў ужо расстраляны. Застаўся жывы і кс. Зянкевіч, які быў у спісках гестапа. Ён праз усё сваё жыццё насіў у сэрцы глыбокую ўдзячнасць сёстрам і вялікі боль...

Колькі ж духовага плёну прынесла, прыносіць і яшчэ прынясе гэта складзенае ў пакорнай ахвяры жыццё!

Сягоння сёстры ў хвале неба. Сёння яны моляць Бога, заступаючыся за нас.

А мы?

Мы ўсхваляем Пана Жыцця і ўзносім песню хвалы.

Мы дзякуем нашаму Богу за гэты прыклад любові.

Мы, сёстры Святой Сям'і з Назарэта, дзякуем Богу, у Святой Тройцы Адзінаму, за магчымасць перажываць тут, на зямлі, радасць іх узвышэння да хвалы алтароў.

Яны — святыя, і Касцёл вуснамі Папы Яна Паўла ІІ пацвердзіў гэта афіцыйна ў Рыме 5 сакавіка 2000 года, калі залічыў іх да супольнасці благаслаўлёных.

Дык узрадуемся і мы разам з усім Святым Касцёлам, што на пераломе вякоў і тысячагоддзяў ёсць людзі, якія сваім жыццём, а яшчэ больш сваёю смерцю заслугоўваюць высокага імя святых.

*Сястра Стэла і 10 сясцёр назарэтанак, маліцеся за нас!*

*Сястра СЕБАСЦЬЯНА CSFN.*

***P. S.** Матэрыялы пра беатыфікацыю чытайце ў наступным нумары.*






# БЛАГАСЛАВЁНЫЯ МІЛАСЭРНЫЯ

***Міласэрнасць — гэта якасць, па якой найлягчэй распазнаць хрысціяніна, бо яна робіць яго падобным да Хрыста.***

***Міласэрная любоў — не саладжавае пачуццё, а пазіцыя, якая выяўляецца ў канкрэтных учынках.***

Учынкі міласэрнасці — гэта справы любові, праз якія мы прыходзім з дапамогаю нашаму бліжняму ў патрэбах яго цела і душы. Навучаць, раіць, суцяшаць, умацоўваць, як і прабачаць, а таксама цярпліва зносіць крыўды — вось учынкі міласэрнасці ў дачыненні душы. Учынкі міласэрнасці ў дачыненні цела заключаюцца галоўным чынам у тым, каб галодных накарміць, бяздомным даць дах над галавою, бедных адзець, хворых і вязняў наведваць, памерлых хаваць. Сярод гэтых учынкаў міласціна, дадзеная ўбогаму — адно з галоўных сведчанняў братняй любові; яна з'яўляецца таксама практыкаю справядлівасці, якая падабаецца Богу. *(2447)*

(...) Струмень міласэрнасці не можа пранікнуць у наша сэрца датуль, пакуль мы не прабачым нашым вінаватым. Любоў, гэтаксама як Цела Хрыстова, непадзельная: мы не можам любіць Бога, якога не бачым, калі не любім брата і сястры, якіх бачым. Калі мы адмаўляем у прабачэнні нашым братам і сёстрам, наша сэрца закрываецца, а яго ўпартасць робіць яго недаступным для міласэрнай любові Айца; праз вызнанне грахоў наша сэрца адкрываецца на Яго ласку. *(2840)*

У хрысціянскай малітве мы даходзім ажно да прабачэння непрыяцелям. Малітва перамяняе вучня, робячы яго падобным да Настаўніка. Прабачэнне — вяршыня хрысціянскай малітвы; дар малітвы можа прыняць толькі сэрца, згоднае з Божым спачуваннем. Прабачэнне сведчыць таксама пра тое, што ў нашым свеце любоў мацнейшая за грэх. Мучанікі ўсіх часоў даюць гэтае сведчанне пра Езуса. Прабачэнне — галоўная ўмова паяднання дзяцей Божых з іх Айцом і ўсіх людзей паміж сабою. *(2844)*

---

*Кс. Войцех БАРТКОВІЧ*

# БРАМА ДА СЭРЦА ЧАЛАВЕКА

Наша маленне аб міласэрнасці Божай часта нагадвае намаганне схіліць да чагосьці Пана Бога. Мы ўяўляем сабе суровае аблічча Усемагутнага і робім усё, каб яго змяніць, каб Ён да нас усміхнуўся, каб прытуліў нас, як добрая мама, што звяртаецца да дзіцяці, якое акурат насваволіла: «Ну, добра ўжо...»

А тым часам Пан Бог зусім не павінен мяняцца, каб аказаць нам сваю міласэрнасць, няма ніякай патрэбы Яго да гэтага схіляць. Проста Ён заўсёды міласэрны. Ён любіць прабачаць, бо імя Яго — Любоў міласэрная.

Нават найбольш вядомы ў гісторыі торг чалавека з Богам — Аўраамава намаганне ацаліць Садом — было на самай справе доўгім працэсам дарастання Аўраама да зразумення, што Усемагутнага зусім не радуе трагедыя садамітаў, што Ён таксама хацеў бы ўратаваць гэтае места... Калі б садаміты павялі сябе гэтак, як жыхары Нінівы, яны б ацалелі.

З благаслаўленнем міласэрных непасрэдна звязана пятая просьба з Малітвы Панскай: «адпусці нам, Божа, так, як і мы адпускаем іншым». Такім чынам, першаю ўмоваю Божага злітавання ёсць нашая літасць да бліжняга. «Забудзь, даруй, не ўспамінай, а помсту пакінь Богу...» Як жа цяжка, аднак, прыняць гэтыя парады, калі ўся наша натура кажа: не! Ёсць у нас інстынкт самаабароны, які загадвае рэагаваць агрэсіяй на агрэсію, атакаю на атаку, крыўдаю на крыўду.

Але гэтак жа дзейнічаюць звяры, і дрэнна ім было б, калі б яны хацелі ашукаць гэты закон прыроды: загінулі б пры сустрэчы з першым жа ворагам.

Такім чынам Пан Езус заклікае нас узняцца па-над уласнаю натураю. Сцісла перадае гэта св. Павел у формуле, якую часта паўтараў кс. Папялушка: «Не дай сябе перамагчы злу, але зло дабром перамагай».

Брама да сэрца чалавека адна. І калі гэтая брама не будзе намі адчынена праз прабачэнне, то і Пан Бог са сваей міласэрнасцю не зможа да нас прыйсці. Датуль не будзе ў нас месца для Божага прабачэння, пакуль мы не выпусцім са змрочных лёхаў нашай душы ўсіх крыўдаў — хоць бы і балючых, усіх прэтэнзій — хоць бы і самых слушных, усіх вынаходліва складзеных планаў помсты за нашыя крыўды.

Усе мы маем з гэтым праблемы. Таму таксама ўсе атрымалі дар парады: Дух Святы вядзе нас пад Крыж і паказвае Забітага Баранка. «Ты думаеш пра свае крыўды, — звяртаецца Ён да нашага сэрца, — паглядзі: Ягоныя раны большыя. Ты маеш прэтэнзіі. Ці не павінен Пан Бог мецьіх да цябе, забойцы Хрыста? Ты плануеш помсту. Паслухай, што кажа самы Бязвінны: «Ойча, прабач ім, бо не ведаюць, што чыняць».

*Пераклад К.Л.*

Нам пішуць

# «Я ВЕДАЮ, ШТО ТЫ БУДЗЕШ ДОБРЫМ ХРЫСЦІЯНІНАМ...»

У кожнага з нас бывалі моманты, калі мы перажывалі крызіс веры. Адкідвалі Хрыста, спрабавалі жыць па сваіх законах. У кожнага жыццё падзяляецца на дзве часткі: без Хрыста і з Хрыстом. Нягледзячы на нашу духовую ўбогасць, Пан Бог прыходзіў і клікаў нас у самы нечаканы момант. І пакліканне кожнага верніка — сведчанне Божай магутнасці. Нядаўна я яшчэ раз змагла ўпэўніцца ў гэтым.

Была нядзеля, у Барысаўскім касцёле а. Роберт праводзіў аднадзённыя рэкалекцыі для моладзі. Заслухаўшыся яго казаннем пра шчырасць хрысціянскай любові, я не адразу ўбачыла маладога задуменнага хлопца, які сядзеў, неяк адасобіўшыся ад іншых. Зацікавіла яго маўклівасць, засяроджанасць. Люблю такіх людзей, бо за імі звычайна стаіць Пан Бог. Вось і цяпер я не памылілася...

Пачырванеўшы ад нечаканай прапановы выступіць, хлопец выпрастаўся, узяў мікрафон і ціхім голасам стаў гаварыць. Канешне, аб сваім пакліканні. Вось што распавёў тады дыякан Ян:

«Да 19 гадоў я зусім не меў ніякага дачынення да Касцёла. Памятаю, як мы з сябрам, выхаваныя ў духу розных атэістычных тэорый, смяяліся з маёй бабулі, якая пасцілася ў пятніцу і кожную нядзелю хадзіла ў царкву. Пасля школы нехта з маіх знаёмых марыў стварыць фірму, хтосьці — паступіць у інстытут. На першым месцы былі грошы, кар'ера, а не Бог. Я ж трапіў на будоўлю. Усім вядома, што будоўля і алкаголь — блізняты. Піў амаль штодня, бо не бачыў іншых спосабаў адчуць сябе шчаслівым... Але вось у майго сябра памерла маці. Хавалі яе на Кальварыйскіх могілках у Барысаве. Труну ўжо спускалі ў магілу, калі нейкая сіла прымусіла мяне павярнуцца. Добра памятаю момант, калі я сустрэў Пана Бога. Павярнуўшыся, убачыў святара, які накіроўваўся да мяне. Ім быў пробашч Юзаф Пятушка. Ксёндз падышоў да мяне, паклаў руку на плячо і ціха вымавіў: «Я ведаю, што ты будзеш добрым хрысціянінам». І пайшоў.

Некалькі дзён я хадзіў, нібыта апалены маланкай. На працы сябры пасміхаліся: «Вось, манах прыйшоў!» Унутры ўсё гарэла, не давала спакою думка: «Як я, атэіст, змагу адмовіцца ад усяго і стаць добрым хрысціянінам?» А праз тыдзень пераступіў парог Барысаўскага касцёла, сустрэўся з маладымі хлопцамі. Памятаю, здзіўляўся, як яны могуць так радавацца, не выпіўшы гарэлкі! Праходзіў час, і я ўжо не мог пражыць дня, каб не зайсці ў касцёл. Пасля працы бег у святыню, каб схіліцца перад алтаром ва ўдзячнай малітве. Аднойчы, засядзеўшыся на сустрэчы моладзі, прыйшоў дадому позна ўночы. Маці, пачуўшы, што быў у касцёле, папрасіла «дыхнуць». І ўжо тады, першы раз прынізіўшыся за Хрыста, я вырашыў, што стану святаром».

Як цяжка кожнаму з нас прыйсці да Бога. Яшчэ цяжэй застацца верным Яму. Вакол столькі зла і жорсткасці, але колькі праяваў Божай магутнасці і любові. Гісторыя дыякана Яна — адна з іх. Бог любіць і кліча вас. Адкажыце Яму сваёй малітвай і ўзаемнасцю.

*Іна Піменава.*







*Кс. Эдвард СТАНЕК*

# З КЛОПАТАМ ПРА СУМЛЕННЕ

## *ШОСТАЯ ЗАПАВЕДЗЬ*

## Не чужалож

***У гэтым нумары мы заканчваем друкаваць развагі кс. Э.Станека над шостаю запаведдзю Дэкалогу. З папярэдніх нумароў вы даведаліся пра тое, што думае гэты выдатны святар і тэолаг пра сужэнскую вернасць, пра адносіны каталіцкага Касцёла да многіх балючых праблемаў сужэнскага жыцця.***

***У двух апошніх раздзелах — «Непарыўнасць сужэнства» і «Самотна па жыцці» — закранаюцца пытанні, з якімі вельмі часта даводзіцца сутыкацца ў нашай паўсядзённасці. Спадзяемся, што на многія з іх дапаможа знайсці адказы гэтая публікацыя.***

*Рэд.*

**Непарыўнасць сужэнства**

Гаворачы пра запаведзь «не чужалож», мы маем на ўвазе заклік Бога да вернасці ў сужэнстве, а значыць гэтая запаведзь стаіць на варце непарыўнасці сужэнства. Прачытваем яе ў аспекце навукі Езуса Хрыста, які адхіліў разводны ліст, што дапускаўся ў законе Майсея. У Старым Запавеце дапускалася магчымасць разводу. Хрыстус цвёрда адкінуў гэту магчымасць, прыгадваючы: «што Бог злучыў, чалавек няхай не разлучае».

Хацелася б і тут сказаць аб усім ясна. Сёння часта можна пачуць нараканні на Касцёл за тое, што ён не хоча згадзіцца з разводамі. Такога кшталту прэтэнзіі скіраваны не на той адрас. Гэта не Касцёл вырашае справу разводаў. Мог бы яе вырашыць толькі Бог, але Ён пастанавіў, што сужэнства непарыўнае. Чаму Пан Бог так катэгарычна паставіў пытанне, хоць і ведаў, што не для аднаго чалавека гэта будзе прычынаю болю і цярпення на ўсё жыццё? Думаю, што ў вялікай ступені неразуменне такой пазіцыі вынікае з таго, што сённяшні чалавек лічыць сужэнства справаю чыста асабістаю. Гэта мая ўласная справа і нікога больш не датычыць. Зыходзімся і разыходзімся так, як нам падабаецца. Шукаем асабістага шчасця. Тым часам у планах Бога сужэнства мае грамадскае вымярэнне. І павінна разглядацца з такога пункту погляду.

Такім чынам, з грамадскага пункту погляду вернасць сужэнства — гэта паказчык прыстойнасці і вартасці чалавека. Сапраўдных людзей мы пазнаем па іх адносінах да бацькоў. Добры сын і добрая дачка, як правіла, з'яўляюцца добрымі людзьмі. Гэтаксама вернасць мужа ці жонкі сведчыць пра іх чалавечую вартасць. Так ёсць на ўсёй зямлі, не залежна ад узроўню культуры і разнавіднасці рэлігіі.

Хрысціянскае сужэнства — гэта грамадская дамова паміж дваіма людзьмі, дамова, пацверджаная прысягаю, складзенаю перад Богам. Таму Касцёл вымагае сур'ёзнай падрыхтоўкі да такога рашэння, вымагае афіцыйнага сведкі, якім ёсць святар, а таксама дваіх сведкаў, якія прадстаўляюць Люд Божы. Тыя, што заключаюць дамову, даюць сабе слова, пацверджанае прысягаю, што захаваюць сужэнскую вернасць ажно да смерці. Парушэнне гэтай прысягі — абраза перадусім Бога, бо Ён быў прызваны сведкам і Яму было дадзена слова. Тыя, што складалі прысягу, не гарантавалі яе захавання вернасцю іншага боку. Прыгадайце сабе свае ўласныя словы прысягі. Там не было сказана: захаваю табе вернасць, калі ты яе захаваеш. Калі нават той другі здрадзіць, слова, дадзенае перад Богам, абавязвае мяне аж да смерці.

Таму кожны раз, калі мы сутыкаемся з парушэннем прысягі, маем справу з чалавекам, які не лічыцца з Богам і не захоўвае вернасці Богу. Да чалавека, які не здольны стрымаць слова, дадзенага Богу, нельга мець даверу. Калі ён падводзіць Бога, то ці не падвядзе нас?

Сужэнства — гэта маленькая частка грамадства. Двое людзей злучаюцца паміж сабою, як злучаюцца дзве цагліны, утвараючы такім чынам частку муру. Калі ў муры гэтыя цагліны па-

чынаюць даваць расколіны, адставаць адна ад другой, то тады ўвесь мур слабне. А калі яны будуць толькі пакладзены побач, а не будуць паміж сабою сцэментаваны, то пры першым сур'ёзным выпрабаванні будова рухне. Таму ад сужонкаў патрабуецца грамадская адказнасць. Ніякае грамадства не згодзіцца будаваць гмах свайго жыцця з незамацаваных цаглінаў, дазваляючы, каб кожная цагліна займала сваё ўласнае месца так, як ёй падабаецца, і тады, калі ёй падабаецца. У такім выпадку няма гаворкі пра якую-кольвечы сур'ёзную пабудову. Сёння мы назіраем вялікі крызіс даверу. Нават у сям'і цяжка казаць пра ўзаемны давер усіх яе членаў. Высвятляецца гэта ў часе звыклых спатканняў у сямейным коле. Адзін другога баіцца. Бываюць тэмы, якія нельга закранаць нават перад самымі блізкімі. А калі няма даверу ў сужэнстве, то яго не будзе нідзе. Калі не можам давяраць самаму блізкаму чалавеку, якога выбралі сябрам жыцця, то каму можам давяраць? Таму любая адноса супольнасці, народу ці чалавецтва павінна распачацца з адбудовы сужэнскага і сямейнага даверу.

У Польшчы распадаецца адна трэцяя сужэнстваў. Гэта вялікая хвароба нашага часу, гэта эпідэмія. Замест таго, каб крычаць, што Касцёл урэшце павінен прызнаць разводы, трэба ўзяцца за лячэнне гэтай хваробы. Бо з таго, што медыцына абвесціць сухоты не хваробаю, зусім не вынікае, што няшчасці гэтай хваробы ўжо зліквідаваны. Наадварот, яны і надалей застануцца цяжкаю хваробаю. Гэта не той шлях. Хрысціянін павінен не крычаць аб праве на развод, а адкрыць для сябе, якія каштоўнасці маюцца на ўвазе і змагацца за сужэнскую вернасць.

Да таго часу, пакуль мы не ўбачым, што праблема датычыць грамадскіх каштоўнасцяў, датуль сужонкі будуць пакінутыя на саміх сябе. Тым часам няраз ім трэба дапамагчы, каб яны вытрывалі ў еднасці. А калі гэта немагчыма, то дапамагчы, каб вытрывалі ў вернасці Богу. Калі распадаецца сужэнства, калі мы маем справу з параю нешчаслівых людзей, патрэбна канкрэтная дапамога. Не гарантуе яе і не акажа дзяржаўнае заканадаўства: яно ўмешваецца звычайна тады, калі ўжо запозна. Тут патрэбен жывы чалавек з сваёю дабрынёю і мудрасцю. Патрэбен хрысціянін. Самотнай маці, пакінутай жанчыне патрэбная апека, патрэбная дапамога, і хрысціяне абавязаны яе аказаць. Знамянальна тое, што розныя каталіцкія рэлігійныя супольнасці тут жа арганізоўваюць такую дапамогу. Нас жа часцей за ўсё гэта не хвалюе. Часта можна пачуць: «Гэта іх справа». Няпраўда. Кожнае сужэнства — наша агульная справа.

У асобных выпадках сужэнская еднасць немагчыма і трэба жыць паасобку. Гэта здараецца тады, калі знаходзіцца пад пагрозаю вера, жыццё, бяспека альбо годнасць жонкі, мужа, дзяцей. Аднак з таго, што поўная еднасць губляецца, не вынікае, што гэтыя людзі маюць права заключыць іншы сужэнскі саюз. (...)

Знакам адновы нашага грамадства будзе супольнае бачанне неабходнасці клопату пра сужэнскую вернасць. (...) Не кідайма камянямі ў тых, хто не захаваў гэтай вернасці. Суддзёю ім будзе Бог. Ведаем, што гэта крыжовая дарога. Адкрываючы харавство Божага права, трэба імкнуцца ў духу любові падаць руку тым, каму патрэбна дапамога. Памятайма, што Божае права можна рэалізаваць толькі агульнымі намаганнямі.

**Самотна па жыцці**

(...) У многіх людзей жыццё склалася так, што, нягледзячы на жаданне знайсці сябра жыцця, гэта не ўдалося. Перад такімі людзьмі — шлях адзіноты. Гэта нялёгкі шлях. Ёсць людзі, якія дабравольна, часам чуючы выразны заклік Пана Бога, павінны былі адмовіцца нават ад прыгожага кахання, каб прысвяціць сябе вызначанаму Богам заданню.

Галоўны прынцып, які павінен быць захаваны ў такой сітуацыі, наступны: бясшлюбнасць не па выбары, а па ўзнікшай сітуацыі ці жыццёвай неабходнасці трэба прызнаць і прыняць як спецыфічны шлях Божага паклікання да любові, г.зн. паклікання аддаваць сябе Богу і людзям. Канкрэтыку такой аддачы трэба сабе ўсвядоміць, удакладніць і ўспрыняць як абавязак. Толькі чалавек, які не любіць, марнуе жыццё: любячы, г.зн. аддаючы сябе, чалавек выйграе жыццё, нават у тым выпадку, калі ён вельмі адзінокі. Самотнае жыццё мае грамадскае вымярэнне, бо становіцца знакам вышэйшасці, перамогі духу над целам, а такія людзі ў грамадстве вельмі патрэбныя. Адкрыццё сэнсу сваёй бясшлюбнасці, сваёй адзіноты — справа надзвычай важная, і толькі той, хто гэта зробіць, пачынае ўсміхацца і бачыць шчасце на сваёй жыццёвай дарозе. Шлях у адзіноце часта паяднаны з асаблівым паклікannем, напрыклад, са служэннем хворым, з педагагічнаю, выхаваўчаю, грамадскаю ці навуковаю працаю. Гэта, як правіла, заданне, якое патрабуе абняць сваім сэрцам значна больш людзей, чым у сямейным коле, і трэба ім аддаць час свайго жыцця.

Касцёл з самага пачатку абараняў і надзвычай высока цаніў усіх, хто дабравольна вырашыў захаваць сваю нявіннасць. Мы жывём у такім свеце, які кпіць і насміхаецца з цнатлівасці. Такія кпіны заўсёды сведчаць пра духоўную паверхоўнасць чалавека. Сёння лічыцца гераіняю жанчына, якая страціла нявіннасць. Але якое ж гэта геройства? На працягу дваццаці стагоддзяў гераіняю лічылася жанчына, якая магла абараніць сваю нявіннасць. Гэтая абарона патрабуе намаганняў, працы, ахвяры. Касцёл атаясамлівае абарону нявіннасці з абаронаю веры. Ёсць шмат жанчын, якія выбіралі хутчэй мучаніцкую смерць, чым страту цнатлівасці, што сведчыла пра іхнюю годнасць. Мы жывем у свеце, дзе робіцца ўсё, каб знішчыць каштоўнасці, выпрацаваныя і беражоныя Касцёлам на працягу дваццаці вякоў. Звернем увагу, напрыклад, на частыя жарты з нявіннасці. Толькі чалавек вельмі нізкага маральнага ўзроўню здольны жартаваць з кагосьці, хто вырашыў жыць у чысці. Калі хтосьці не ў сілах рэалізаваць прыгожых ідэалаў, то аблівае іх брудам. Такая атака на цнатлівасць жыцця вядзецца ўсюды: у кіно, на тэлебачанні, у прэсе, у штодзённых размовах.

У гэтым кантэксце можам паглядзець на сэнс жыцця законніцы — жанчыны, якая свядома і дабравольна выбірае нявіннасць. (...) Часта лічыцца, што законніца павінна служыць калекім дзецям, старым і хворым людзям альбо выконваць розныя функцыі ў Касцёле. Гэта няпраўда! Дзецьмі і хворымі з поспехам могуць займацца жанчыны, якія маюць сем'і. Любая праца, якую выконвае законніца, можа быць выканана свецкімі. У чым сэнс жыцця законніцы? Яна адзявае габіт, каб быць знакам вышэйшасці духа над целам. Такі знак патрэбны ў свеце. Сёння і гэты знак спрабуюць замазаць, каб ён не быў чытэльны. Нават многія каталікі не бачаць сэнсу такога жыцця і пасвячэння. Часта можна пачуць: «Што яна робіць? Яна звар'яцела». Не, не звар'яцела. Яна ідзе па вуліцы, каб нагадаць табе, што можна ўтаймаваць сваё цела. Гэта яе заданне, і Бог яе да гэтага паклікаў. Яна ёсць знакам. Неяк адзін з будаўнікоў, якія рамантавалі дах у кляштары, пэўны час залацаўся да маладой, прыгожай законніцы. Але тыя заляцанні не давалі вынікаў, і тады ён сказаў: «Бачу, што ў законе знішчаюць сэрца жанчыны». Законніца спакойна адказала: «Так, бо вучаць вялікай любові. Я павінна ўмець любіць вас і яшчэ сто іншых такіх, як вы...»

Гэты адказ сведчыць пра тое, што ёсць любоў, значна прыгажэйшая за тую, што зведзена выключна да фізіялогіі.

У гэтым кантэксце трэба таксама ўбачыць сэнс цэлібату святароў. Зразумела, святарства не паяднана Богам з цэлібатам. Ва ўсходняй Царкве святар можа быць мужам і бацькам. Грэка-каталіцкая Царква таксама прыняла такую практыку. У рымскім жа Касцёле для атрымання святарскага пасвячэння патрабуецца скласці шлюб чыстасці. Сэнс у тым, каб святар сваім жыццём нагадваў вернікам аб прымаце духу над целам, а таксама быў бы дасканалаю прыладаю ў руках Пана Бога. Як святар ён можа быць патрэбны сёння тут, а заўтра — там. Сям'я ўскладняе такія пераезды. Мы з'яўляемся сведкамі атакаў на цэлібат святароў. Усё гэта — частка шырока задуманай барацьбы з хрысціянскаю рэлігіяй. Пытанне застаецца адкрытым, бо паяднанне святарства з цэлібатам зыходзіць з права, устаноўленага Касцёлам, а яно можа быць зменена. Аднак трэба памятаць, што цэлібат, па волі Божай, служыць вялікай справе, якою ёсць Божае валадарства.

Часта духавенства папракаюць у розных грахах. Трэба ўмець аддзяляць праўду ад фальшу. Свет хоча знішчыць аўтарытэт святароў. Напэўна, нельга гэтага ўчыніць шляхам забойства, як адбылося з ксяндзом Папалушкам, бо выйдзе наадварот, аўтарытэт тады пойдзе ўгару. Аўтарытэт можна знішчыць, падрываючы давер, а гэтага найлягчэй дасягнуць, паліваючы брудам. Зразумела, святары таксама грэшныя. Частка звестак пра грахі святароў — праўдзівая. Аднак, калі вы хочаце перадаваць такія звесткі, трэба імкнуцца высветліць іх праўдзівасць, бо з таго, што адзін ці другі святар не здольны захаваць вернасць свайму пакліканню, не вынікае, што тысячы іншых таксама не здольныя на гэта. Нельга рабіць абагульненняў. Святарства — гэта нялёгкі шлях. Калі вернасць у сужэнстве аказваецца цяжкаю справаю і так пагрозліва ўзрастае колькасць разводаў, то і для святароў вернасць — справа няпростая. Умейце стаць у духу веры на бок вялікіх каштоўнасцяў, і тады замест абмовы ці ачарнення з'явіцца на вашых вуснах малітва аб вернасці для кожнага святара.

Успомнім св. Яна Хрысціцеля. Гэта быў чалавек, які аддаў жыццё, бароняцы шостую Божую запаведзь. Ён стаў перад Ірадам і сказаў: «Нельга мець жонкі брата свайго». Ён выступіў супраць разводу і новага саюзу, угрунтаванага на разводзе, і за гэта паклаў галаву. Ніколі Ян Хрысціцель не здолеў бы так адважна стаць на абарону шостай запаведзі, каб сам не быў чысты. Патрэбныя людзі чыстыя, бо толькі ў іх вуснах абарона чыстасці можа мець поспех. Праз заступніцтва гэтага вялікага святога будзем прасіць Бога, каб мы ўмелі ўбачыць каштоўнасць нявіннасці, каштоўнасць адзіноцтва, каштоўнасць тае жыццёвай пазіцыі, якая для атачэння становіцца чытэльным знакам вышэйшасці духа над матэрыяй.

*Працяг будзе.*

*Пачатак у №№ 1-6, 8-12 за 1998 г., у №№ 1-2, 5-6, 8-9 за 1999 г. і ў № 1-2 за 2000 г.*

*Пераклад Крыстыны ЛЯЛЬКО.*

# КАЛІ АГОРНУЦЬ ТРЫВОГА Й БЯЗРАДНАСЦЬ...



*Складаны, няпросты час перажываем усе мы напрыканцы другога тысячагоддзя. Эканамічныя праблемы, цяжкія хваробы, катаклізмы ў прыродзе — усё гэта робіць свой негатыўны адбітак на нашым жыцці. Многія людзі губляюцца, страчваюць пачуццё ўпэўненасці і трываласці. Многія ўпадаюць у злосць, пачынаюць помсціць за свае непрыемнасці тым, хто жыве побач, не разумеючы, што гэта робіць іх яшчэ больш слабымі і бязраднымі. Некаторыя пачынаюць шукаць выйсця ў сумніўных сувязях, лёгка верачы фальшывым прарокам, якія заўсёды з'яўляюцца ў складаныя перыяды жыцця і гатовыя пажывіцца на чужой бядзе, наіўнасці і разгубленасці.*

*Што ж можа дапамагчы нам у такой сітуацыі? Дзе, у каго шукаць паратунку? Для католікаў такога пытання не павінна існаваць. Бо яны заўсёды, у радасці і ў горы, шукалі і шукаюць свайго прыстанку ў Бога, а таксама ў вернай Пасрэдніцы паміж Панам Богам і людзьмі — Маці Божай. Да таго ж, мы ведаем, што ў любую хвіліну і з любою патрэбаю можна яшчэ звярнуцца да святых у небе.*

*У кожнага з нас ёсць, так бы мовіць, «свой святы», да якога мы маем найбольшы давер.*

*І хтосьці з нас нават не задумаецца над тым, як магло тое адбыцца, і нават не падумае падзякаваць таму, да каго ў хвіліну ўтрапення звяртаўся з малітваю. Бо не заўсёды мы спяшаемся падзякаваць Небу за падтрымку і ўдзел у нашым будзённым, клапатлівым, часта такім мітуслівым жыцці. Але сапраўдны вернік заўсёды здолее расчытаць гэтыя знешне непрыкметныя знакі, здолее зразумець, адкуль яму прыйшла дапамога і ніколі не забудзецца шчырым сэрцам падзякаваць за падтрымку. Гэта і ёсць тая нябачная наша сувязь з Панам Богам, Маці Божай і ўсімі святымі ў небе.*

*Сёння мы друкуем Навэнну да святога Апостала Юды Тадэвуша. Многія католікі ведаюць і любяць гэтага святога, бо ён часта прыходзіць на дапамогу ў асабліва цяжкіх і складаных справах, якія мы нават называем безнадзейнымі. Няхай жа ён дапамагае нам вярнуць надзею ў адказ на нашы даверлівыя малітвы да яго.*

*Дзень святых апосталаў Сымона і Юды Тадэвуша — 28 кастрычніка. Мы ўспамінаем іх разам, бо яны ў адзін дзень прынялі пакутніцкую смерць за Хрыста.*

## Навэнна да святога Юды Тадэвуша

### *Першы дзень*

Святы Юда Тадэвуш, хвалебны Апостал і вялікі заступнік перад Богам за тых, хто прыходзіць да цябе з глыбокім даверам!

Адкрываю перад табою маё заклапочанае сэрца і прашу, і малю апекавацца мною. Глыбока прагну таксама быць сярод тых, хто цябе праслаўляе, і тых, для каго ты выпрасіў у Бога Усемагутнага ласку, якой яны прасілі.

Яны таксама абвяшчаюць, што ты, святы Юда, не адмовіў ім у сваёй апецы ў найцяжэйшыя, роспачныя і безнадзейныя хвіліны іхняга жыцця. Гэты іхні голас і нязломная вера ў цябе прывабілі і мяне. І вось я каля тваіх ног горача і сардэчна прашу быць заступнікам у маёй справе... (назваць просьбу).

*Ойча наш... Вітай, Марыя... Хвала Айцу...*

### *Другі дзень*

О святы Юда Тадэвуш! Ты стаў хвалебным Апосталам, бо па заклiку Езуса Хрыста пайшоў за Ім, аддаючы Яму сваё сэрца, поўнае любові, веры і праслаўлення.

У Хрысце, Яго навуцы і ў Яго Боскай місіі ты знайшоў натхненне для сваёй вялікай апостальскай працы і стаў адным з першых будаўнікоў каталіцкага Касцёла, любові і хрысціянскай маральнасці.

Я прагну, о святы Юда Тадэвуш, ісці па жыцці, угледаючыся ў твае сляды, і горача прашу цябе: будзь натхненнем для маіх думак і ўчынкаў, і я стану карысным для нашага каталіцкага Касцёла, буду свяціць сваім бліжнім добрым прыкладам. Амэн.

*Ойча наш... Вітай, Марыя... Хвала Айцу...*

### *Трэці дзень*

Святы Юда Тадэвуш, хвалебны Апостал! Якаясьці цудоўная моц ахінае маё сэрца, калі мае думкі шукаюць цябе і спыняюцца пры табе, мой заступнік! Тады я спазнаю цудоўнае пачуццё веры, што ты ёсць побач са мною, чуваеш нада мною, гасячы маю трывогу перад небяспекай, якая мне пагражае.

Дай мне, о святы Юда Тадэвуш, ласку, каб гэты мой сардэчны давер, які я маю да цябе, ніколі не згасаў, каб пры жыцці гэты давер быў для мяне шчытом, абароняю і прывёў маю душу пасля смерці да тваёй светлай пастаці, а праз цябе і да Найсвяцейшага Аблічча Езуса Хрыста, нашага Збаўцы. Амэн.

*Ойча наш... Вітай, Марыя... Хвала Айцу...*

### *Чацвёрты дзень*

О святы Юда Тадэвуш! Паколькі ты ўжо ведаеш патрэбы і жаданні маёй душы, дай мне дастаткова сілы і ўмацоўвай маю волю, каб я прыкладным жыццём як найлепш выконваў мае штодзённыя абавязкі, а адначасна і місію пашырэння Божай хвалы, якой патрабуе ад нас Хрыстус. Дапамажы мне ісці дарогай любові і хрысціянскай маральнасці да праўдзівага чалавечага шчасця ў нашым зямным жыцці і да збаўлення душы.

Хрыстус Пан абвяшчаў, што шчасце чалавецтва на зямлі знаходзіцца ў вечнай і найвялікшай праўдзе, якой з'яўляецца любоў бліжняга. Няхай жа гэты найпрыгажэйшы пачатак Хрыстовай навукі праменіцца на мяне і на тых, хто разам са мною жыве, працуе і ідзе па жыцці пад штандарам Езуса Хрыста. Амэн.

*Ойча наш... Вітай, Марыя... Хвала Айцу...*

### *Пяты дзень*

Святы Юда Тадэвуш! Праз памяць Мукі і смерці Езуса Хрыста, праз трывогу і боль, якія прадчувала Тваё сэрца, выпрасі мне ў Бога ласку мужна несці крыж, які Божы Провід усклаў на мяне. Дапамажы мне прыняць яго з Божых рук, калі не з радасцю, як гэта чыніў ты і святыя, то, прынамсі, з ціхім падпарадкаваннем Божай волі ў духу веры і жалю за свае грахі.

О святы Апостал, сведка жыцця і смерці Езуса Хрыста! Узгадай тую слодыч, якую адчувала тваё сэрца, калі твой дарагі Настаўнік Хрыстус вучыў цябе і іншых апосталаў маліцца святую малітву «Ойча наш». Прашу цябе выпрасіць для мяне ласку, каб я заўсёды, нават у хвіліны найвялікшай слабасці служыў твайму Боскаму Настаўніку — ажно да канца майго жыцця. Амэн.

*Ойча наш... Вітай, Марыя... Хвала Айцу...*

### *Шосты дзень*

Дзякую табе, о святы Юда Тадэвуш, дарагі мой і праслаўлены Апостал, за тое, што ты ўмацаваў маю сілу волі, якая дазваляе мне з надзеяй глядзець у маю будучыню.

Шчырым сэрцам дзякую табе за тое, што ты аддаляеш ад мяне боязь за пагаршэнне ўмоваў майго жыцця, што знішчаеш ува мне пакутлівую сілу трывогі перад новымі небяспекамі, якія так прыгняталі мяне.

Умацоўвай, о святы Юда Тадэвуш, гэтую палёгку ў маім сэрцы і ўзмацняй мой душэўны спакой. Няхай ён станецца для мяне жаданай ласкай дару Хрыстовай любові.

Учыні, каб я чэрпаў з таго дару сілы і моц у кожнай патрэбе майго жыцця. Амэн.

*Ойча наш... Вітай, Марыя... Хвала Айцу...*

### *Сёмы дзень*

О святы Юда Тадэвуш! Пасля агромністага смутку ты зведаў невымоўную радасць, калі зноў убачыў свайго дарагога Настаўніка, які на трэці дзень пасля сваёй смерці паўстаў з мёртвых, каб з'явіцца перад сваімі вучнямі — апосталамі. Выпрасі ў Бога ласку адраджэння ўва мне добрых пачаткаў, каб я быў годны Хрыстовай міласэрнасці. Амэн.

*Ойча наш... Вітай, Марыя... Хвала Айцу...*

### *Восьмы дзень*

О святы Юда Тадэвуш! Ты ў сваёй апостальскай працы вучыў, што светам кіруе Божая ўсемагутнасць, што гэтая вечная сіла панавання ўсё пранікае і ажыўляе, і што на гэтай сіле пабудаваны каталіцкі Касцёл. Учыні, мой заступнік, каб я ў цяжкія хвіліны майго жыцця імкнуўся ў яго ныя брамы і каля ног Хрыста знайшоў супакаенне. Амэн.

*Ойча наш... Вітай, Марыя... Хвала Айцу...*

### *Дзявяты дзень*

О святы Юда Тадэвуш, хвалебны Апостал! Няхай на векі будзе бласлаўлёна тваё імя, няхай расце колькасць тых, хто цябе ўшаноўвае, да якіх і я ажно да апошняга майго ўздыху буду належаць, бо маё сэрца, душа і кожная клетка майго цела адчуваюць збаўленчую праўду, якая ідзе да нас з глыбіні вякоў, праўду пра тое, што ты ніколі не адмовіш у сваім заступніцтве таму, хто працягне да цябе рукі і шчыра, у найвялікшай веры папросіць у цябе паратунку і дапамогі.

Буду шанаваць цябе і абвяшчаць хвалу твайго імя, бо праз тваё заступніцтва плыве да мяне Божае благаслаўленне. Амэн.

*Ойча наш... Вітай, Марыя... Хвала Айцу...*

*Пятро ПРЫХОДЗЬКА*

## ЗДЗЕКІ НАД ЦАРКВОЙ

Урывак з паэмы

*Што бачыў я —*
*о, Божа правы! —*
*Калі мне йшоў дзевяты год:*
*Каб век такой не ведаць з'явы*
*Паміж усіх другіх нягод.*

*Ужо з зімы апошніх дзён*
*Снег атрасалі дрэваў шаты.*
*Пад капяжоў крамяны звон*
*Год ветраваў*
*дваццаць дзевяты.*

*Завеям наступаў канец, —*
*А нехрысты залютавалі:*
*ў сяле вялікім Ялавец*
*Храм Божы*
*раскрыжоўваць сталі.*

*Сярод прыбеседскіх бароў,*
*Пачуўшы воклічы такія,*
*З суседніх вёсак, хутароў*
*Зышліся ўсе, нават малыя.*

*Адзін з вясковых*
*«актывістаў»*
*Узяў пілу, як той абрэз,*
*Тапор стальны*
*з лязом іскрыстым,*
*І з імі на царкву палез.*

*Стаяць, угледзеўшы яго,*
*Каля царквы натоўпам людзі:*
*«Здымаюць крыж.*
*А для чаго?»*
*«Дык не царква,*
*а клуб тут будзе!»*

*Палез другі. Падножжа крыжа*
*Пачалі ўдвох пілiць пілой.*
*Але сталёвы ў цэнтры*
*стрыжань*
*Не паддаецца сіле злой...*

*Абкручваць пачалі канатам*
*І крыж цягнуць сто лайдакоў.*

*А той — ні з месца, зухавата*
*Глядзіць уніз на мужыкоў,*

*Нібы гаворыць:*
*«Што ж вы, людцы,*
*ўчынілі здзекі нада мной?*
*Я некалькі ўжо рэвалюцый*
*Перастаяў над старaной.*

*Калі віхура бушавала,*
*Я не палохаўся імжы.*
*Яшчэ ж такога не бывала, —*
*Каб з цэркваў*
*скідвалі крыжы...»*

*Па-над сялом зіхцела ранне,*
*Вадзіла сонца карагод...*
*Стаялі людзі ўсе ў маўчанні,*
*Нібы вады набраўшы ў рот.*

*Ніхто крыжа нат не паслухаў*
*З тых, што прыдумаў*
*гэты злом,*
*...Пайшлі супраць*
*Святога Духа*
*І веры, дадзенай жыццём. (...)*

## ПЛАШЧАНІЦА

*Нябёсаў ранніх галасамі*
*Звінела гулкая званіца.*
*З царквы ў садок пад абразамі*
*Выносілася плашчаніца.*

*Спыняліся мы перад ёю*
*І нізка голавы схілялі.*
*Палітая Хрыста крывёю*
*Яна нас заклікала ў далі.*

*І над святым Хрыстовым целам*
*Жывы агонь успыхваў быдта.*
*Палотнішчам чырвона-белым*
*Усё яно было прыкрыта.*

*Каб устаяць супраць навалы,*
*Ішлі мы Небу памаліцца.*
*Над свежым лісцем,*
*з дрэў апалым,*
*Вясну гукала плашчаніца.*

*Праменне сонца ў наваколле*
*Давала ўсёй зямлі абсягам.*
*І там чырвона-белы колер*
*Зліваўся, пэўна,*
*з нашым сцягам.*



*Таццяна МУШЫНСКАЯ*

# ЗНАХОДКА

## Апавяданне

«Які цуд! Цэлыя дзве гадзіны зусім вольныя! Па-першае, трэба пазваніць дачцэ і даведацца, як яна здала чарговы экзамен. Учора сядзела позна, мо, гадзіны ў тры спаць лягла. Няхай бы хоць чацвёрка якая была. А па-другое, можна схадзіць папіць кавы, а потым яшчэ з паўгадзіны падыхаць свежым паветрам. Наступная «пара» пачынаецца роўна ў тры гадзіны», — прыблізна так думала Алена, калі выходзіла з будынка мастацкага ліцэя, дзе яна выкладала музыку. Жанчына шчыльней нацягнула на галаву вязаную шапачку, захінула каўнер занадта лёгкага паліто, каб праз яго не прабіраўся ледзяны лютаўскі вецер.

Кавярня была на другім паверсе універсама. Сёння за стойкаю працавала зусім не тая касірка, якую любіла Алена, — усмешлівая і рухавая жанчынка, а яе напарніца — мажная і век чымсьці незадаволеная.

«Але што яе асуджаць? — думала Алена. — Можа, характар ад прыроды такі. Можа, чалавеку што баліць і наогул — ці мала прычынаў для кепскага настрою?»

— Мне, калі ласка, каву і булачку з карыцаю, — сказала як мага лагодней і, убачыўшы знаёмы, непрыветна-здзіўлены позірк касіркі, паспяшалася адысці.

Свабодных месцаў амаль не было. За бліжэйшым столікам сядзелі дзве паўнаватыя жанчыны сярэдняга веку, пілі каву з піроЖнымі і нешта жыва абмяркоўвалі. Абедзве яны былі нечым няўлоўна падобныя адна на адну. «Можа, сяброўкі, а можа, сёстры?» — падумала сама сабе Алена. Абедзве ў светлых велюравых паліто, якія адрозніваліся толькі колерам, з футраваю апушкаю па краях капюшонаў.

— За ваш столік можна прысесці? — спытала як мага больш прыветна Алена. Ёй не хацелася парушаць іхнюю размову, але ж вольных месцаў больш не было. Кабеты кіўнулі ў знак згоды.

— Сядайце, сядайце, — бландзінка прыбрала з крэсла досыць аб'ёмную сумку, акінула Алену прыдзірліва-скептычным позіркам.

«Цікава, хто яны, чым займаюцца? Добра апранутыя, упэўненыя, — думала Алена, пацiху памешваючы лыжачкай сваю каву. — Чужое жыццё — амаль заўсёды загадка. У вялікім горадзе мы пражываем яго, не маючы ніякага ўяўлення пра тое, хто жыве за сцяною, хто сядзіць побач з табою ў кавярні, хто ходзіць па тых самых вуліцах...»

Калі Алена схадзіла па бутэрброд і вярнулася за свой столік, суседак ужо не было. На століку стаялі не прыбраныя пакуль маленькія філіжанкі з-пад кавы. Белыя, ажурна-лёгкія венскія крэслы насупраць былі пустыя. І толькі на закругленай спінцы аднаго з іх адзінока і неяк непрытульна вісела жаночая сумачка. Яна была з бліскучай цёмна-карычневай скуры, на доўгім раменьчыку, з жоўтым замком. Алена падумала, што, напэўна, сяброўкі адышлі і зараз вернуцца. Але кавярня пацiху пусцела, і па сумачку ніхто не вяртаўся, яе проста забылі.

А раптам там якія каштоўнасці? А можа, дакументы? Не, трэба абавязкова знайсці гаспадыню!

Алена падышла да касіркі, якая заклапочана праглядала лічбы на стужцы ў касавым апараце.

— Я вас вельмі прашу... — пачала яна. — Тут адна жанчына сумачку сваю забылася. Калі яна вернецца... ведаеце, светлыя такія валасы, паліто прыгожае бежавага колеру, вы ёй падкажыце мой хатні тэлефон... — і Алена працягнула касірцы паперку. — Я тут запісала.

«І шанцуе ж такім ненармальным! — думала касірка, гледзячы на Алену. — Нават калі ў той сумачцы, акрамя касметычкі і праезнага, нічога няма, усё роўна нейкі прыбытак...»

— Добра, — уголас сказала яна. — Калі з'явіцца, перадам. Не перажывайце.

* * *

Дзве жанчыны ў прыгожых велюравых паліто пасля кавярні прайшліся па праспекце. Потым Ірэніна сяброўка нарэшце села ў аўтобус, а Ірэна дачакалася свайго маршрута, зручна ўладкавала вандзэлкі і тады толькі заўважыла, што няма сумачкі. Каб не кантралёр, якому трэба было паказаць праезны, так і даехала б да дому...

Калі зразумела, што сумачкі няма, ледзь не самлела. Хто? Дзе? Калі ўкраў? Яна, Ірэна, не магла сама яе забыць! Не магла!

Сяброўка якраз сёння аддала пазычаныя грошы. Вядома, нічога цяпер не знойдзеш... Які дурань грошы аддасць? Хіба яна сама аддала б каму-небудзь выпадкова знойдзеныя дзве тысячы «баксаў»? Ніколі б не аддала! Напэўна б, пасмяялася з разявакі. Цяпер нехта смяецца з яе...

Але што разважаць? Ідыётка, расцяпа! А можа, не ўкралі? Можа, сама забылася? З такой сумай грошай па горадзе цягацца?! Але як яна магла сумку пакінуць? І спахапілася не адразу... Дзіва, што забылася, калі ўсё жыццё, як баба базарная, з гэтымі клункамі і вандзэлкамі цягаецца. Торбу з прадуктамі дадому везла. А ўсё таму, што машына сапсавалася. Мужык, цяльпук гэтакі, ужо тры месяцы адрамантаваць не можа. Частка гэтых «баксаў» і павінна на рамонт пайсці. А што цяпер рабіць? Можна было б пазычыць, але ў каго? Хто цяпер такую суму дасць?

Ірэна стаяла на прыпынку і пакутліва думала, што рабіць, але думкі блыталіся.

Шукаць бессэнсоўна. Як кажуць, што з воза ўпала, тое прапала. Але як добра, калі гэта падае з чужо-

га воза. І як кепска, калі з твайго. Хто цяпер аддасць такія грошы, калі палова народу — бедныя. Як тая жанчына, што сядзела насупраць у кавярні...

У галаве мільганула здагадка... Менавіта ў кавярні яна і забыла сумачку. Так! Дакладна.

Дыхаць зрабілася крышку лягчэй.

Трэба тэрмінова ехаць у бок універсама. А раптам, раптам? Ну, няхай адзін працэнт са ста? Няхай нават адзін шанц з тысячы?..

* * *

Чужая сумачка стаяла на кухонным стале. Алена асцярожна адчыніла яе, нібыта ўвайшла без дазволу ў чужую кватэру. У сумачцы аказаліся касметычка, насоўка, некалькі ўпаковак з невядомымі лекамі, стос каляровых фотаздымкаў у фірменным пакеце «Kodak», дэзадарант, два замежныя пашпарты. У партманэ — невялікая сума беларускіх грошай. Побач ляжаў звычайны белы канверт, а ў ім — «зялёныя». Купюрамі па сто і пяцьдзесят долараў. Усяго — дзве тысячы.

Алене было неяк дзіўна і непамысна трымаць у руках такую суму. Яна працавала ў дзяржаўнай установе, дзе плацілі зусім іншымі грашыма. Тымі самымі «зайцамі», якія адразу ж пасля зарплаты разбягаліся з гэткай жа хуткасцю, з якой уцякаюць сапраўдныя зайцы ў лесе. Яе зарплата выкладчыцы музыкі была, натуральна, невялікай. Але Алена імкнулася шмат пра гэта не думаць і не гаварыць. Па-першае, таму, што яна кожны дзень займалася сваёю любімаю працаю. Па-другое, таму, што не ў грашах шчасце. А па-трэцяе... Надта шмат пытанняў выклікала гэтае «па-трэцяе»...

Дзіўна... Значыць, каб здабыць менавіта такія «зялёныя» паперкі, людзі кідаюць любімую працу, едуць за блізкі свет, жывуць тыднямі і месяцамі асобна ад сваёй сям'і, сварацца, перажываюць, псуюць нервы і жыццё сабе і іншым... Не! Навошта ёй гэта? Здаецца, Максім Горкі пісаў некалі пра краіну жоўтага д'ябла. Цяпер мы жывем у краіне зялёнага д'ябла. Калі людзі гатовыя прадаць сваю душу каму заўгодна за гэтыя самыя «зялёныя» паперкі. А потым думаюць, што гэтыя паперкі зробяць іх усемагутнымі і шчаслівымі...

— Мама, адкуль у цябе столькі грошай? — у голасе дачкі Каці, якая зазірнула на кухню, прагучала непадробнае здзіўленне.

— Сумачку нейкая жанчына незнарок пакінула ў кавярні, — адказала амаль механічна Алена, занятая сваімі думкамі. Яна зірнула на дачку і заўважыла, што тая глядзіць на грошы, як зачараваная.

«Якое багацце! — думала Каця. — Гэта ж клас! І проста так, з неба, лічы, зваліліся. Які цуд! Няўжо цуды існуюць на самай справе?! Гэта грандыёзна! — планы, што ўзніклі ў Кацінай галаве, расцвіталі, як кветкі пад ласкавымі промнямі сонца. — На адпачынак — не ў вёсцы, не ў запыленым горадзе — хопіць! На новую сукенку — хопіць! Белай фарбы банку купіць і вокны летам пафарбаваць — хопіць!.. Якое шчасце быць багатай! Няхай нават гэта будзе нядоўга. Але чаму не наладзіць сабе свята? Яно здараецца так рэдка...»

— Мама, ты падумала, што мы за гэтыя грошы купім?

— Каця! — з дакорам прамовіла Алена.

— Мама... — дачка ледзь не задыхнулася ад абурэння. Яна не ведала, як патлумачыць тое, што ёй самой здавалася зразумелым і элементарна-простым. — Мама, ты ўяўляеш, колькі гэта, калі пераве сці на нашы грошы? Ды не ў «абменку» ісці, а паспрабаваць з рук, у знаёмых, па цане «чорнага рынку»?

— Здагадваюся, але якая розніца, калі гэта не маё?

Дачка маўчала. Сэнс матчыных словаў кепска суадносіўся з яе планамі. Удзвюх з маці яны жылі ўжо даўно. Грошай не хапала на самае неабходнае. Каця вучылася ў інстытуце завочна і працавала на дзвюх працах, на кожнай на паўстаўкі. Уставала ў шэсць гадзін раніцы, бо ехаць трэба было з дзвюма перасадкамі і амаль што на другі канец горада. Часам яна зайздросціла знаёмым або сяброўкам, якія маглі толькі вучыцца.

Гэтых грошай хапіла б, калі іх разумна размеркаваць, на год, а можа і на болей. Але ж маці ні ў чым не пераканаеш. Яна ўспрымае свет інакш.

— І што ты будзеш з гэтымі грашыма рабіць? — спытала Каця проста так, на ўсялякі выпадак. Адказ яна ведала загадзя. Маці — верніца. Яна аддасць гэтыя грошы. Аддасць усё, нічога сабе не пакіне. Скажа, што чужое браць нельга, скажа, што гэта д'ябальская спакуса, грэх і гэтак далей. Усё, што яна скажа, загадзя вядома. Але маленькае, кволае спадзяванне, што, пражыўшы на свеце столькі гадоў, можна ўжо і перастаць быць ідэалісткай, яшчэ жыло ў свядомасці Каці.

— Кацюша, вядома, аддам — усё да апошняй паперкі. Дачушка, можа, людзі нейкія планы мелі, збіраліся ці паехаць куды, ці купіць што?

— Ой, мама! Цябе нішто не можа змяніць. Яны атрымалі гэтыя грошы, калі аблапошвалі такіх, як мы з табой. За сумленную працу табе ці мне столькі дадуць? Не дадуць!..

— Каця, можа, ты і праўду кажаш. Але ты падумай: гэта ж грэх — браць чужое...

— Мама, добра, я з табой згодная. Але адкажы мне толькі на адно пытанне. Чаму на элементарныя патрэбы няма грошай, і гэта не грэх? Чаму ва ўсім свеце, за выключэннем асобных краін Афрыкі, дзе нядаўна яшчэ, прабач, у набедраных павязках бегалі, ніхто так не жыве, як мы? Мы не жывем, не радуемся жыццю, а ўсё змагаемся. І з каго за гэта можна спагнаць? За тое, што ўсё жыццё мы будзем капейкі лічыць?! І думаць, якое шчасце, што зарплату своечасова выдалі! Ды я маю права ў суд падаваць на свайго начальніка, які мне своечасова грошы не аддаў. Так ва ўсіх цывілізаваных краінах робіцца...

— Каця, нешта ты сёння дужа ваяўнічая, — толькі і знайшла што адказаць маці, убачыўшы, як пакрыўджана-рэзка крутнулася і выйшла з кухні дачка.

*Заканчэнне ў наступным нумары.*





# Сэрцы, што прагнуць Бога

Касцёл Святой Тройцы ў Уле (Бешанковіцкі р-н Віцебскай вобл.) — адзін з нямногіх на ўсходняй Віцебшчыне, які, нягледзячы на шматлікія палітычныя буры і грамадскія перавароты, ацалеў і нядаўна зноў вярнуўся да жыцця. Праўда, ягоны знешні выгляд цяпер далёкі ад першапачатковага выгляду таго храма, што быў заснаваны ў XVII стагоддзі Лукомскім і вядомы з энцыклапедыяў як дамініканскі касцёл св. Лукі. Касцёл быў упершыню зачынены царскімі ўладамі ў 1832 годзе пасля падаўлення вызваленчага паўстання на Беларусі. Як вядома з гісторыі, тады было зачынена шмат касцёлаў і грэка-каталіцкіх храмаў. Гэтая святыня сваім прыгожым знешнім выглядам натхніла ў 1876 годзе мастака Напалеона Орду, і ён зрабіў малюнак касцёла на жывапісным стромкім беразе Заходняй Дзвіны. Нібы прадчуваў мастак, што надыдзе час, калі гэтую прыгажосць знявечаць. Гэта здарыцца ў XX стагоддзі, а напрыканцы XIX ст. касцёл зноў быў зачынены і дзейнічаў да новага павальнага наступу на каталіцызм, цяпер ужо з боку бальшавіцкай улады.


Кс. Язэп Барадзюля.

Менавіта гэты касцёл згадвае ў сваім дзённіку «Дваццаць пяць гадоў турмы, лагераў і ссылкі» кс. Язэп Барадзюля: «Нарадзіўся я 4 верасня 1893 года. Мама, напужаная трагедыяй з першынцам Антосем, прысвяціла мяне апецы Маці Божай. У першыя ж дні майго жыцця яна занесла мяне ў касцёл мястэчка Ула і паклала перад алтаром Багародзіцы, просячы ў Яе дапамогі й аховы». І сапраўды: Маці Божая апекавалася гэтым чалавекам, бо, нягледзячы на страшны пераслед, пакутніцкі шлях даўжынёй у 25 гадоў, кс. Барадзюля застаўся нязломны ў веры і сваёй адданасці абранаму шляху святарства. Ягоныя землякі могуць ганарыцца гэтым чалавекам. Тым больш, што сувязь кс. Барадзюлі з роднай зямлёй і яе жыхарамі не скончылася на тым ахвяраванні яго Багародзіцы, а можа, менавіта дзякуючы той даўняй падзеі, ён заўсёды памятаў пра родныя мясціны і сваіх землякоў, якіх бязбожніцкая ўлада гвалтоўна намагалася адлучыць ад Бога. Але гэтыя намаганні толькі сведчылі пра недальнабачнасць і марнасць улады. Бо можна гвалтам зачыніць касцёл, можна сарваць вежы і тым самым знявечыць ягоны знешні выгляд, але нельга па загаду ўлады, на якіх бы моцных штыках яна ні трымалася, прымусіць чалавека паверыць і служыць д'яблу, а не Богу. Асабліва, калі чалавек ужо адкрыў для сябе Бога і спазнаў Ягоную праўду.


У касцёле Святой Тройцы.

Так сталася і ў Уле — невялікім старажытным мястэчку на маляўнічым беразе Заходняй Дзвіны, размешчаным якраз там, дзе рака Ула ўпадае ў Дзвіну. Не спалохалі тутэйшых католікаў ні пераслед іхняй веры, ні зрыванне з касцёла стромкіх вежаў, ні нават тая страшная трагедыя, што разыгралася блізу Улы на пачатку мінулай вайны. Тады чырвонаармейцы гналі з Беразвецкай турмы калону палітвязняў, большасць якіх былі жыхарамі Заходняй Беларусі. У небе паказаліся нямецкія самалёты, і ахоўнікі, баючыся, што іхнія вязні разбягуцца і стануць вольнымі, проста расстралялі калону. Відавочцы і цяпер успамінаюць, якой чырвонай была на тым месцы зямля, як чалавечая кроў стаяла ў разорах.

Пасля вайны, калі іхні зямляк кс. Язэп Барадзюля ўжо скончыў свой пакутніцкі шлях па сталінскіх турмах і выгнаннях, ён не раз прыязджаў у Улу ці суседняе Мікалаева. І тады ў хаце якой-небудзь каталіцкай сям'і шчыльна завешваліся вокны; асцярожліва, каб не прыцягваць чыёйсьці нядобразычлівай увагі, у тую хату збіраліся мясцовыя католікі. Святар спавядаў, хрысціў, адпраўляў Святую Імшу. Цяжка, але немагчыма было тады паверыць, што настане некалі такі час, калі католікі будуць адкрыта, не таячыся, вызнаваць сваю веру.

Але ён прыйшоў, гэты шчаслівы час! Пасля працяглага перапынку ульскі касцёл зноў расчыніў свае дзверы для вернікаў, і кожную нядзелю тут зноў адпраўляецца Святая Імша, збіраючы ў святыню вернікаў не толькі з Улы, але і з суседніх вёсак. Рамонтнымі працамі кіраваў пробашч лепельскага касцёла св. Казіміра Мечыслаў Янчышын. Ягонымі ж намаганнямі ульская парафія зноў



Сям'я Орпікаў.

жыве паўнакроўным каталіцкім жыццём. 18 верасня 1999 года адбылася рэкансэкрацыя касцёла, і гэтая падзея, безумоўна, увайшла ў гісторыю Улы.

Мне давялося пабыць у ульскім касцёле халодным студзеньскім днём. На першы погляд, святыня можа здацца не надта ўтульнай, бо адзінае яе ўпрыгожанне — абраз святога Юзафа ў галоўным алтары, прывезены сюды з Лепеля. Не захаваўся і алтар Маці Божай, перад якім некалі сціплая сялянка Ганна Барадзюля ахвяравала Найсвяцейшай Панне Марыі сваё дзіця, якому Бог вызначыў надзвычай нялёгкі, але адначасна і слаўны святарскі шлях. Ксёндз Барадзюля з годнасцю прайшоў гэты шлях і стаў для нас чалавекам-легендай, чалавекам-таямніцай, своеасаблівым сімвалам трываласці і мужнасці беларускага каталіцкага святарства XX стагоддзя.

У гэтым касцёле пакуль мала ўпрыгожанняў. Не хапае пакуль што тут і многіх неабходных рэчаў. Тым даражэйшым быў падарунак раённых уладаў — сапраўдны электрычны арган, а таксама падарунак лепельскіх парафіянаў — абраз св. Антонія. І ўсё ж найлепшым аздабленнем касцёла з'яўляюцца вернікі, якіх і ў той сцюдзёны зімовы дзень было даволі шмат. Сапраўднае ўпрыгожанне гэтай парафіі — тыя бабулі і дзядулі, якія ўвесь час, пакуль зачынены касцёл служыў зернесховішчам, а потым і ўвогуле сметнікам, не забываліся на малітву і зрабілі ўсё магчымае, каб малітва не стала чужою для іхніх дзяцей ды ўнукаў. Менавіта таму цяпер тут ёсць і моладзь, і дзеці, чые прыгожыя малюнкі цешаць вока вернікаў каля ўваходных дзвярэй касцёла.

Ад Улы да Шуміліна прыкладна кіламетраў 35. У Шуміліне ніколі не было касцёла, але каталіцкая парафія св. Язафата Кунцэвіча тут ёсць. Яна зарэгістравана ў мінулым годзе і, нягледзячы на свой малады век, не такая ўжо і маленькая. Прынамсі, у той жа студзеньскі дзень шумілінская капліца была запоўнена, а парафіяне ўзгадвалі яшчэ сваіх знаёмых, якія ў той дзень не здолелі прыйсці на Святую Імшу. Пакуль што раз на месяц сюды таксама прыязджае маліцца ксёндз Мечыслаў Янчышын з Лепеля.



Шумілінскія парафіяне.

Калі камусьці з нашых чытачоў давядзецца быць у Шуміліне, то ён дарэмна будзе шукаць там будынак капліцы. Яго пакуль проста няма. Шумілінская капліца — гэта пакуль што ўтульны пакой у гасцінным доме маладой сям'і Орпікаў. Гаспадар дома Вячаслаў Орпік — старшыня парафіяльнае рады. Сам Вячаслаў летась узяў на сябе клопат аб рэгістрацыі парафіі, а потым, пабудаваўшы свой дом ды параіўшыся з жонкай Святланай, запрасіў парафію маліцца ў свой дом. У адным з яго пакояў цяпер і ёсць тая самая шумілінская капліца, дзе ўтульна сябе пачуваюць і святар, і вернікі. Святлану нікольκі не бянтэжыць дадатковы клопат у іхнім жыцці. А для дачкі Каці і сына Паўліка гэта яшчэ і радасць: якія ж дзеці не любяць, каб у іхні дом прыходзіла шмат людзей. І Паўлік, і Каця таксама бяруць чынны ўдзел у Святой



Генеральны вікары Віцебскай дыяцэзіі кс. Ф. Кісель адпраўляе Св. Імшу.

Імшы, ахвотна разам са старэйшымі спяваюць рэлігійныя беларускія песні, а Каця іншы раз нават падыгрывае на піяніна.

У каталіцкім Касцёле цяпер вельмі папулярны рух «хатняга касцёла». У гасцінным доме сям'і Орпікаў гэтае паняцце ўспрымаецца літаральна, бо як жа цудоўна — сустрэць людзей, якія не толькі самі шукаюць Бога і імкнуцца ў сваёй сям'і жыць па Ягоных запаведзях, але і стараюцца дапамагчы іншым адкрыць для сябе гэты цудоўны скарб — каталіцкую веру. Многія шумілінскія парафіяне пасля Святой Імшы ўжо на парозе дома адкланьваліся гаспадарам са словамі: «Няхай вам Бог адплаціць за вашу дабрыню!». Што ж, лепшага і не пажадаеш. Толькі яшчэ вельмі хочацца спадзявацца, што некалі ў Шуміліне ўсё ж паўстане каталіцкая святыня. Тым больш, што падмурак для яе тут ёсць даволі надзейны. Гэта — людскія сэрцы, што прагнуць Бога.

*Ірына Жарнасек.*

# Бог дае надзею...



У трагічны вечар 30 мая 1999 года ў падземным пераходзе на станцыі метро «Няміга» загінулі 53 чалавекі. Праз некаторы час было аб'яўлена, што загінуўшых было 54. Гэтым 54-м стаў 19-гадовы хлопец, католік, Сяргей Саладкевіч. Ён памёр 11 чэрвеня ў 5-й бальніцы, увесь гэты час так і не прыйшоўшы ў прытомнасць.

12 чэрвеня ў 15 гадзін у Архікатэдры адбылася пахавальная Святая Імша, якую адпраўляў кс. Ігар Лашук. Адсюль труну з целам хлопца павезлі ў вёску Люціна Валожынскага раёна. Адтуль родам бацькі Сяргея, туды ён ездзіў амаль кожныя выхадныя дапамагаць бабулі з дзядулем па гаспадарцы, ды і працаваць на зямлі, якой гэтая сям'я мела больш за гектар. Тут, на мясцовых могілках, якія лічацца сямейнымі, і знайшоў ён свой апошні прытулак.

Што і казаць, гора бацькоў і родных невымернае. Маці Сяргея Ганна Мар'янаўна пры нашай сустрэчы не змагла стрымаць слёз:

— Я пахавала сваю любоў, свайго памочнічка, свайго сыночка-дубочка, — прыгаворвала яна. — Вы ведаеце, якім жа добрым ён быў. Ніколі не было такога, каб, адыходзячы з хаты, не пацалаваў мяне. Я калі-небудзь і пажартую: «Ты ўжо дзяўчат павінен цалаваць». А ён у адказ: «Мама, ты ў мяне самая лепшая дзяўчына». Па характары быў вельмі вясёлы, жартаўлівы, з добрым пачуццём гумару. І што вельмі мне падабалася — зусім не крыўдлівы. Ніколі ні на каго не трымаў зла.

З дзяцінства Сяргей любіў спорт, а менавіта футбол. Спачатку займаўся ў секцыі на трактарным заводзе. А потым быў у групе Савосцікава пры стадыёне «Дынама». У сваім нядоўгім жыцці Сяргей перанёс 9 аперацый, большасць з якіх — наступствы сур'ёзных траўм. Пасля апошняй аперацыі на каленным суставе дактары сказалі, што футбол для яго скончыўся. Але яны памыліліся, бо не ведалі, наколькі вялікую сілу волі меў гэты юнак. У хуткім часе ён адкінуў кастылі і пачаў старанна распрацоўваць нагу. І перамог.

Пасля смерці Сяргея дактары бальніцы казалі, што ў яго было моцнае сэрца спартсмена, таму ён так доўга не мог памерці.



У Ганны Мар'янаўны на гэты конт сваё меркаванне: «Бог не адразу яго забраў, а даў пэўны час. Час вельмі важны і вельмі патрэбны для душы, якая адыходзіла ў вечнасць».

У нашай размове маці загінуўшага хлопца неяк сказала:

— Я не ведаю, ці змагла б перажыць гэтае гора, калі б была няверуючым чалавекам. Бог дае сілы ў цярпенні, дае зразуменне гэтае бяды і, галоўнае, дае надзею на спатканне ў вечнасці. Неяк хутка пасля пахавання мне прысніўся сон. Бачу закрытую труну Сяргея. Хачу адчыніць крышку і паглядзець, але баюся. Потым наважылася. Бачу — а сын жывы. Ён устае, я яго цалую і прыгаворваю: «Сынок, ты ж нам хатку даў і сам жывы застаўся». Пасля смерці Сяргея мы атрымалі кватэру, на якую стаялі ў чарзе 16 гадоў і ўжо нават страцілі надзею. Разгадка сну простая — сын сапраўды жывы. Ён ужо дома, як гаворыць народная мудрасць, а мы яшчэ ў гасцях.

Па словах маці, Сяргей быў вельмі клапатлівы і ўважлівы. За некалькі месяцаў да дня нараджэння сваёй маці пачаў збіраць грошы ёй на падарунак. Адкладваў са стыпендыі, а потым з зарплаты, што атрымліваў на практыцы. Вучыўся ён на газаэлектразваршчыка ў ПТВ №23. Часта казаў: «Пачакай, мамачка, вось хутка пайду працаваць, тады зажывем».

Але так і не паспеў павіншаваць Сяргей сваю маму. Хаця... Дзень нараджэння ў Ганны Мар'янаўны 9 чэрвеня, а 10 чэрвеня — у пляменніцы Сяргея. Ганна Мар'янаўны лічыць, што сын зрабіў падарункі сваім родным — ён не памёр у гэтыя дні, хаця дактары былі ў тым упэўненыя. Ён адышоў у вечнасць 11 чэрвеня.

Той трагічны дзень 30 мая ніякай бяды не прадвяшчаў. Была нядзеля. Ганна Мар'янаўна, інвалід другой групы, адчувала сябе не лепшым чынам і ў касцёл не паехала. Паклікала Сяргея да радыё, каб паслухаць Святую Імшу, якая трансліравалася з Чырвонага касцёла. Потым Сяргей пачаў збірацца да сяброў, якія працавалі грамадскімі кантралёрамі на атракцыёнах у парку Чалюскінцаў. Адзеў новыя порткі і новыя туфлі, у якіх быў на вяселлі ў сваёй роднай сястры. Папрасіў у мамы новую футболку, але тая не дала. Адказала: «Добра і ў гэтай сабак ганяць па вуліцы». Сяргей не пакрыўдзіўся. Як заўсёды,

пацалаваў маці і пайшоў. Да адзення, як і да ежы, быў непатрабавальны — радаваўся таму, што ёсць. Пра мерапрыемства на Нямізе ён нічога не ведаў. Гэта ўжо потым сябры яго з сабой паклікалі.

У гэтую ноч Сяргей не прыйшоў дадому начаваць. Такога яшчэ не здаралася. Сэрца маці было неспакойнае. Ледзьве дачакалася раніцы. А калі па радыё пачула пра трагедыю на Нямізе, страціла прытомнасць. Пачалі з дачкой усюды званіць. Але неўзабаве пад хату пад'ехала машына хуткай дапамогі і людзі ў белых халатах запыталі, ці не тут жыве Сяргей Саладкевіч. Сяргей меў пры сабе білет навучэнца ПТВ, таму адшукаць яго родных не склала праблемы.

Адразу Сяргей трапіў у рэанімацыю 3-й бальніцы. Тут ён нарадзіўся 19 красавіка 1980 года. Тут дактары і тады змагаліся за яго жыццё, бо роды былі вельмі складанымі. Ён выжыў. І таму, калі зараз Сяргей апынуўся ў гэтай бальніцы, Ганна Мар'янаўна мела надзею, што сын будзе жыць. Праз некаторы час аказалася, што хлопцу для лячэння патрэбна баракамера. Яго перавезлі ў 5-ю бальніцу. Дактары і ўвесь медперсанал працавалі проста самаахвярна. Але... Як сказала сама Ганна Мар'янаўна: «На ўсё воля Божая». Дарэчы, увесь час, калі яна малілася каля непрытомнага сына, прасіла: «Божа, Ты ўсё бачыш, усё ведаеш наперад, няхай станецца Твая воля...»

Вядома, што ў такім горы без дапамогі добрых, спагадлівых людзей не абысціся. І такіх людзей вакол Саладкевічаў было нямала. Усім ім бацькі Сяргея вельмі ўдзячныя. З асаблівай павагай і ўсёй шчырасцю бацькоўскіх сэрцаў яны дзякуюць старшыні Партызанскага райвыканкама Станіславу Іосіфавічу Буко. Як сказала Ганна Мар'янаўна, такіх добрых і сардэчных людзей яна сярод начальнікаў не сустракала. Ад яго адной прысутнасці на душы станавілася лягчэй. Гэты чалавек і сёння, адзін з ужо нямногіх афіцыйных асоб, іх не забывае.

Хутка міне год, як у падземным пераходзе на станцыі метро «Няміга» здарылася трагедыя. Але і сёння немагчыма без слёз прайсці па тым страшным тунэлі. Да гэтага часу туды не перастаюць ісці людзі, кожны сантыметр сцен пераходу спісаны. У словах застыў чалавечы боль, крык душы тых, хто страціў тут сваіх родных, сяброў, знаёмых і незнаёмых людзей. Вось толькі некалькі надпісаў: «Если бы можно было выкричать всю боль — мир оглох бы...», «Вы ушли навсегда, вы ушли в небеса, растоптали вас дикие звери...», «Вы погибли за всех нас, став невинными жертвами. Простите! Простите! Простите!»

Сапраўды, гэта ахвяры. Ахвяры жорсткага сучаснага свету, які існуе на падманных, скажонных каштоўнасцях. І гэта трагедыя на Нямізе — не што іншае, як Божая перасцярога ўсім нам: «Апамятайцеся, дзеці ў бядзе!!!»

Аб гэтым гаварылася і падчас набажэнстваў, якія адпраўляліся па загінуўшых на Нямізе ў каталіцкіх і праваслаўных храмах. А словы з Евангелля ад Лукі (Лк 13, 4-5), якія чыталіся ў той час, у поўнай меры адлюстроўваюць сутнасць усяго, што здарылася. Вось яны, гэтыя Божыя словы: «Ці думаеце, што тыя васемнаццаць душ, на якіх звалілася Сілаамская вежа ды пабіла іх, больш вінаватыя былі за ўсіх жыўшых у Ерузалеме? Не, кажу вам, але, калі не пакаецеся, усе таксама пагінеце».

Як жа важна, каб усе мы гэта зразумелі.

*Галіна КАЛЕВІЧ.*

# За адным сталом — каталіцкія выдаўцы СНД

***У пачатку лютага ў Кіеве адбыўся сімпозіум кіраўнікоў каталіцкіх выдавецтваў з абшараў былога Савецкага Саюза. Прадстаўнікі выдавецтваў, геаграфія якіх сягае ад Вільні да Іркуцка, ад Санкт-Пецярбурга да Тбілісі, атрымалі добрую магчымасць сустрэцца, каб абмяняцца вопытам і вызначыць галоўнае ў справе евангелізацыі каталіцкага Касцёла на гэтых тэрыторыях. То быў добры шанц для лепшага ўсведамлення духоўных патрэбаў як католікаў, так і ўсіх хрысціянаў з пункту гледжання работы як выдавецтваў кніжных, так і тых, хто выпускае каталіцкую прэсу.***

***Другі Ватыканскі Сабор у сваім Дэкрэце падкрэсліў ролю кнігі і іншых сродкаў сацыяльных зносінаў у духоўным развіцці чалавека. «Асобная маральная адказнасць у правільным выкарыстанні сродкаў сацыяльных зносінаў, – гаворыцца ў Дэкрэце, – ляжыць на журналістах, пісьменніках, акцёрах, рэжысёрах, рэалізатарах, праграмістах, распарадзіцелях, вытворцах, прадаўцах, крытыках, – увогуле на ўсіх, хто тым ці іншым чынам удзельнічае ў вытворчаці і перадачы інфармацыі, бо абсалютна ясна, што ў сучасных умовах трэба ўскладаць вялізную адказнасць на тых, хто інфармацыяй можа накіроўваць род людскі на добры ці дрэнны шлях».***

***Гэтая думка прагучала ў выступленнях бадай усіх удзельнікаў сімпозіума. Было прызнана, што, нягледзячы на намаганні выдаўцоў, на ўсё ўзрастаючую колькасць выдаваемых кніг, духоўнай літаратуры для католікаў як лацінскага, так і грэцкага абрадаў не хапае. Кіраўнікі выдавецтваў дамовіліся ўзгадняць планы сваёй дзейнасці з тым, каб каталіцкая і ўвогуле хрысціянская літаратура, якая выдаецца на тэрыторыі былога СССР, адпавядала патрабаванням вернікаў.***

***Вялікую цікавасць удзельнікаў сімпозіума выклікалі выданні, якія прывезлі прадстаўнікі Беларусі, – «Наша вера», «Ave Maria», «Дыялог», «Каталіцкія навіны», «Маленькі рыцар Беззаганнай» і інш.***

***Ніжэй прапануем Вашай увазе адзін з цікавых і характэрных дакладаў, якія прагучалі на сімпозіуме. З ім выступіў старшыня Камісіі па сродках масавай інфармацыі Канферэнцыі Біскупаў рымакаталіцкага Касцёла на Украіне біскуп Станіслаў Падэўскі.***

*Яраслаў Чапля.*

*Біскуп Станіслаў ПАДЭЎСКІ*

## Значэнне сродкаў масавай інфармацыі ў фармаванні хрысціянскага грамадства

Папа Ян Павел II назваў сродкі масавай інфармацыі «арэапагам сучаснага свету». (...) Але, на жаль, вельмі часта гэты «арэапаг», гэтая сучасная «агара» нагадвае біблейскую вавілонскую вежу – так многа тут змяшалася моваў, столькі шуму, тлуму, мітусні і бязладдзя. (...)

Кніга, прэса, радыё, кіно, тэлебачанне і ў апошні час Інтэрнет – гэта важныя фактары фармавання сучаснай культуры ў шырокім значэнні гэтага слова, яны таксама з'яўляюцца дзейснымі спосабамі распаўсюджвання евангельскай праўды, фармавання хрысціянскай культуры. На апошнім Сінодзе Біскупаў Еўропы на тэму «Езус Хрыстус, які жыве ў сваім Касцёле – крыніца надзеі для Еўропы» былі адзначаны роля і значэнне сродкаў масавай інфармацыі ў справе новай евангелізацыі, а таксама падкрэслена, што многія сродкі масавай інфармацыі прывіваюць сваім спажыўцам фальшывыя надзеі, таму яны ў пэўным сэнсе выступаюць антытэзай той надзеі, якой для Еўропы з'яўляецца Езус Хрыстус. Празмернае прывязванне надзеяў выключна да такіх каштоўнасцяў як дабрабыт, жыццёвы поспех, кар'ера, а таксама пазіцыя геданізму становяцца перашкодай у прыняцці Хрыста як крыніцы надзеі. Вось чаму быў высунуты пастулат, каб Касцёл больш «прысвойваў» крыніцы інфармацыі і праз іх прапаведваў сваю веру, сваю місію, а таксама асвятляў сваё жыццё. У прыватнасці, было прапанавана стварыць еўрапейскае каталіцкае тэлебачанне – своеасаблівае пастаяннае еўрабачанне, якое будзе садзейнічаць будове Еўропы на аснове павагі да яе хрысціянскіх каштоўнасцяў.

Прымаючы пад увагу бурнае развіццё мультымедыйнай тэхнікі, удзельнікі Сіноду прапанавалі стварыць міжнародную групу экспертаў у гэтай галіне, каб яны дапамаглі выпрацаваць праграму евангелізацыі і служэння чалавеку, выкарыстоўваючы новыя мовы – Інтэрнет і інфармацыйныя тэхналогіі. Тры гады таму, калі толькі зараджалася сістэма камп'ютарнай сеткі, кардынал Роджэр М.Маконей сказаў: «Калі б св.Павел быў жывы, ён днём і ноччу абвяшчаў бы Слова Божае праз Інтэрнет» (1997).

Калі сродкі масавай інфармацыі як крыніца евангелізацыі маюць станоўчы ўплыў на чалавека, то ў інфармацыйнай, выхаваўчай і забаўляльнай функцыі яны нясуць шматлікія пагрозы, звязаныя з тым, што гледачы не ўмеюць адбіраць праграмы, а яшчэ таму, што сваім зместам – прапагандай агрэсіі, секса і трактоўкай чалавека як аб'екта – яны маральна разбэшчваюць грамадства. Пагроза для праўды і дабрыні зыходзіць больш з боку электронных сродкаў інфармацыі, чым з боку друкаваных, бо чалавечая псіхіка збудаваная так, што восемдзесят працэнтаў інфармацыі чалавек успрымае зрокам. Ні кніга, ні прэса, ні нават радыё не ў стане так хутка і дзейсна, як тэлебачанне, давесці да спажыўца пэўны змястоўны імпульс, аказаць уплыў на фармаванне маральных пазіцый альбо іхнюю дэфармацыю.

Чытач, слухач, глядач не павінен быць бязглуздым спажыўцом кухні, якая не заўсёды клапоціцца пра экалагічна чыстую ежу, бо працаўнікі гэтай кухні маюць сваіх кіраўнікоў, якія праграмуюць меню пад уплывам камерцыйных інтарэсаў альбо ідэалагічных груп. Існуюць каналы, якія прапануюць спажыўцу так званы жывёльны корм. Не адзін з тых, хто пастаянна ўжывае толькі пікантныя стравы, цалкам сапсаваў сабе густ і страўнік. Эротыка і насілле, у асаблівасці на экране, пагарджаюць усімі маральнымі нормамі. Мас-медыя ўнушаюць фальшывыя погляд, атаясамліваючы секс і каханне. Камера, якая фіксуе акт такога зместу, робіць бруд і ганьбу аб'ектам мастацтва. У патоку масавай культуры плывуць атрутныя вырабы, якія абуджаюць у чалавеку самыя нізкія інстынкты, прапагандуючы насілле, закон джунгляў, выхоўваючы спажывецкае стаўленне да жыцця, што робіць чалавека не толькі пасіўным, але і духоўна ўбогім. (...)

Мэта хрысціянскага выхавання – гэта ўсебаковае развіццё асобы. Выкарыстанне прэсы, радыё, тэлебачання, кіно не ўзвысяць асобу, не ўзбагацяць яе асабістай культуры, бо гэтыя сродкі не адлюстроўваюць рэальных каштоўнасцяў, не фармуюць светапогляд, а, хутчэй, наадварот: як гаворыць сама назва, забяспечваюць толькі апасродкаванае «бачанне». Яны не з'яўляюцца ні «акном», адчыненым у свет, ні «адлюстраваннем» рэчаіснасці, як лічылася дагэтуль. Углядванне дзяцей і маладых людзей у тэлевізійныя экраны цягне за сабой успрыманне ўзораў і мадэляў паводзінаў, учынкаў герояў фільмаў,

абцяжаранае затрымкай уласнага развіцця. Дзеці і моладзь абіраюць тое, што ім падсоўваюць, перастаюць быць самімі сабой.

Што можна зрабіць, каб правільнае развіццё чалавечай асобы не падвяргалася пагрозе, каб захаваць чалавечую годнасць? Бацькі робяць памылку, калі дазваляюць дзецям малодшага ўзросту карыстацца кампутарам, рознымі электроннымі гульнямі, бо гэта шлях да шаблоннага і аўтаматычнага свету, які толькі на першы погляд абуджае дзіцячую фантазію, а па сутнасці забівае яе.

Кніга ж, наадварот, развівае ўяўленне, пабуджае да разважанняў, бо не прапаноўвае гатовай стравы. Вопытныя бацькі добра ведаюць, што дзяцінства трэба пачынаць з апавяданняў, казак, а не з кампутара. Захапленне чытаннем – гэта першая лінія фронту, якая супрацьстаіць цывілізацыі малюнкаў, развівае творчыя здольнасці чалавека, бо інакш актыўнасць дзяцей абмяжуецца правільным уменнем маніпуляваць пультам, а ў будучыні – успрыманнем іншага чалавека ў якасці аб'екта і падпарадкаваннем яго сабе ў якасці рэчы.

Размова ідзе пра рэкламу кнігі, добрай кнігі, у асаблівасці літаратуры для дзяцей і юнацтва. Нашы пачынаючыя выдавецтвы выпускаюць пераважна пераклады, мала з'яўляецца айчынных твораў, у прэсе адчуваецца недахоп добротнага літаратурна-рэлігійнага эсэ. А тыя публікацыі, якія з'яўляюцца, не заўсёды ўлічваюцца ў праграме дзейнасці парафіяльных святароў, а часам іх нават байкатуюць з-за мовы выдання.

Праз кнігу, газеты і часопісы таксама праводзіцца евангелізацыя. Задачай Касцёла павінна быць выхаванне навыкаў чытання кніг хрысціянскага зместу, дзякуючы якім многія саўлы і фамы няверуючыя знайшлі шлях да Бога. Мець свае сродкі масавай інфармацыі цяпер амаль недаступна для Касцёла ў нашых асобных рэгіёнах, але ёсць магчымасць развіваць асветніцкую дзейнасць, каб спажыўцы навучыліся правільна ўспрымаць змест праграмаў мас-медыя, а таксама фармаваць грамадскую думку і грамадскую пазіцыю, каб журналісты, работнікі пяра, работнікі культуры ў радыёстудыях, на тэлебачанні і на старонках газет не забываліся пра пачуццё адказнасці за апублікаванае слова і вобраз. Галоўнай справай з'яўляецца фармаванне адчувальнасці да такіх паведамленняў, дзе змест і маральныя правілы разыходзяцца, трэба стаяць на варце захавання журналісцкай этыкі і прыстойнасці ў перадачы інфармацыі, каб ісціна і дабро, павага да годнасці чалавечай асобы былі галоўнымі каштоўнасцямі. (...)

Калі гаворка заходзіць пра спадчыну хрысціянскай культуры, неабходна ўлічваць, што мы жывем ва ўмовах суіснавання дзвюх традыцый – візантыйскай і лацінскай, дыхаем двума лёгкімі: у чалавечага арганізма два лёгкія, але толькі адно сэрца. Скрыжоўванне розных плыняў можа стварыць своеасаблівы сінтэз.

Нам яшчэ блізкія па часе рэшткі таталітарнай спадчыны, калі чалавек быў толькі дзяржаўным вінцікам. Размова ідзе пра вяртанне чалавеку яго- най годнасці, якая была прыніжаная. І тут ёсць нямала працы: асэнсоўваць каштоўнасці жыцця, дар жыцця, які быў абясцэнены, Евангелле жыцця, забарону смяротнага пакарання і этыку працы. Трэба змяніць стаўленне да працы. Для большасці праца – гэта эканамічная неабходнасць ці, інакш кажучы, – продаж свайго прафесійнага ўмення. Творчы аспект працы людзей хвалюе вельмі мала. Трэба глыбей глядзець на працу, каб убачыць яе рэлігійныя і духоўныя аспекты.

Якія духоўныя каштоўнасці пераважаюць у працы? Чалавек увасабляе ў ёй духоўнае багацце: розум, здольнасці, задумы. У матэрыяльным свеце сваёй творчай працай ён праяўляе сваё падабенства да Бога. Сучасная тэхніка пацвярджае велізарныя магчымасці чалавека, якія ён скарыстоўвае толькі часткова, бо чалавечыя рэзервы намнога большыя.

Глыбокі змест працы раскрываецца ў тым, што яна змяняе і ўдасканальвае самога чалавека і аб'ядноўвае людзей ў агульных намаганнях.

Узгадайце словы Яна Паўла II: «Работа, любая работа – перш за ўсё праца, творчая праца. І гэта датычыць не толькі даследчай ці навуковай, адным словам, інтэлектуальнай працы, але і звычайнай фізічнай працы, якая, на першы погляд, не нясе ў сабе нічога творчага». Праца з'яўляецца нашым абавязкам перад Богам, бліжнімі, народам. Хрысціянін ведае, што ён жыве не толькі для сябе, але і для бліжняга і сваім служэннем рэалізуе сваё пакліканне на зямлі.

Пісьмо, гук, вобраз – гэта спосабы перадачы думкі. Езус Хрыстус, як кажа св.Ян, ёсць адвечнае Слова, а па словах св.Паўла, Ён – вобраз Нябачнага Бога. Ён – крыніца камунікацыі, адзіны Пасрэднік паміж чалавекам і Богам – Mediator Dei. Святы Ян Евангеліст у сваім Першым пасланні піша: «Што было ад пачатку, што мы чулі, што бачылі сваімі вачыма... аб Слове Жыцця» (1 Ян 1, 1). «Бо Бог адзін і адзін пасярэднік між Богам і людзьмі – чалавек Езус Хрыстус» (1 Цім 2, 5). (...)

Скрозь прызму Асобы Хрыста мы павінны навучыць людзей чытаць, слухаць і глядзець – і такім чынам выхаваем сапраўднага чалавека. Але трэба памятаць, што нашая задача не ў тым, каб проста прапагандаваць хрысціянскую ідэю – мы самі павінны паказваць сабою Езуса Хрыста. У дзейнасці хрысціянскіх работнікаў культуры важна час ад часу спыніцца, адысці ад мікрафонаў, камераў ці кампутараў і самім прачытаць некалькі старонак Евангелля, сесці ля ног Настаўніка і слухаць Яго, доўга ўглядацца ў Ягоны твар, быць у Ягоным святле, з Яго чэрпаць святло, каб пасля самім выпраменьваць гэтае святло.







*Сябры! Як мы і дамаўляліся, паведамляю імёны тых дзяцей, якія актыўна ўдзельнічалі ў ружанцовым конкурсе і даслалі правільныя адказы на пытанні да другой, балеснай часткі нашага Ружанца. Пераможцамі гэтай часткі конкурсу сталі* ***Лена Бурак*** *і* ***Каця Козіч*** *з в. Юнькі Пастаўскага раёна. Лісты гэтых дзяўчынак прыносяць мне сапраўдную радасць. Да таго ж, Лена і Каця амаль заўсёды прысылаюць цікавыя малюнкі, лепшыя з якіх будуць змешчаны ў «Маленькім рыцары Беззаганнай».*

*Актыўна ўдзельнічалі ў дзіцячым ружанцовым конкурсе, правільна адказвалі, хоць і не на ўсе таямніцы,* ***Марыя Шыманская*** *з в. Плашава Дзяржынскага раёна,* ***Іра Амбразевіч*** *і* ***Юля Садоўская*** *з в. Тумашы Глыбоцкага раёна,* ***Алег Сініца*** *з Пастаў, браты* ***Сярожа*** *і* ***Дзіма Пяткевічы*** *з в. Дрысвяты, што на Браслаўшчыне,* ***Люда Дзіковіч*** *з Шаркаўшчыны.*

*Парадавалі мяне лісты і тых, хто нядаўна далучыўся да нашай супольнай малітвы і прыслаў па адным альбо два лісты:* ***Юра Александровіч*** *з Мазыра,* ***Лена Камарніцкая*** *з Пастаў,* ***Гражына Станкевіч*** *з Вілейкі,* ***Рая Падрэз*** *з в. Барсукі Докшыцкага раёна,* ***Марына Азарко*** *з Глыбокага.*

*Не на ўсе таямніцы адказвалі мае старыя сябры, з якімі мы разам маліліся першую частку Ружанца: Марыя Жуковіч і Вара Папова з Мінска, Вераніка Валодзька са Стоўбцаў, Таня Бацяноўская і Алеся Пілецкая з в. Павяцце Мёрскага раёна, Таня Пшонка са Слуцка, Іра Гурневіч з в. Дзераўное Стаўбцоўскага раёна. Хочацца верыць, што вы, мае дарагія сябры, не перасталі маліцца наш супольны Ружанец. Бо малітва мае вялікую сілу, а дзіцячая малітва асабліва падабаецца Пану Богу і Святой Марыі.*

*Марыя Шыманская, Марына Азарко і некаторыя іншыя хлопчыкі і дзяўчынкі пытаюцца, што гэта за часопіс «Маленькі рыцар Беззаганнай» і якім чынам яго можна набываць. Сябры! «Маленькі рыцар Беззаганнай» — гэта дзіцячы дадатак да «Ave Maria». Ён выпускаецца спецыяльна для вас. На жаль, пакуль што мы не маем магчымасці арганізаваць на яго падпіску. Найбольш актыўным удзельнікам нашага конкурсу мы вышлем па некалькі нумароў гэтага цікавага выдання. А ўсе астатнія звяртайцеся да сваіх святароў з просьбай, каб яны набывалі для вашых парафій часопіс «Маленькі рыцар Беззаганнай».*

*Марыська.*




## Частка трэцяя — хвалебная

## Таямніца другая
## УНЕБАЎШЭСЦЕ ЕЗУСА ХРЫСТА

**Пытанні да разважанняў**

1. Каго Пан Езус прызначыў быць Ягоным намеснікам на зямлі? Знайдзіце гэтае месца ў Евангеллі св. Яна.
2. Хто заснаваў каталіцкі Касцёл і дзеля чаго?
3. Колькі дзён пасля свайго Змёртвыхпаўстання Пан Езус знаходзіўся на зямлі?
4. Дзе адбыўся ўзыход Езуса ў неба?
5. Што азначаюць словы: «Узышоў у неба, дзе сядзіць праваруч Бога Айца усемагутнага, адтуль прыйдзе судзіць жывых і памерлых»?

Езу! Пра неба марыць кожны з нас. Бо неба — гэта Ты і Твая Маці, Марыя. Неба — гэта магчымасць быць з Табою навекі!

О, як моцна кожны з нас прагне заслужыць яго для сваёй вечнасці! Святая Марыя! Дапамажы нам дасягнуць таго, пра што марыць кожны хрысціянін, — магчымасці быць з Табою і Тваім Сынам навечна ў небе. І няхай усе добрыя людзі шчасліва, з надзеяй ідуць да яго па сваім жыцці!

*Ойча наш...*
*10 Вітай, Марыя...*
*Хвала Айцу...*
*О мой Езу! Прабач нам нашыя грахі...*

# ТАК ПРЫЙШОЎ ДА НАС БОГ

Вернікі парафіі святога Францішка г. Салігорска Мінскай вобласці разам з усім каталіцкім светам з асаблівую радасцю сустрэлі Божае Нараджэнне і пачатак Юбілейнага Года Хрысціянства.

Асаблівасць сёлетняга свята для парафіянаў Салігорска яшчэ і ў тым, што ўпершыню яны адзначылі яго ў сваім касцёле.

Да гэтага на працягу многіх гадоў людзі ездзілі ў касцёлы Нясвіжа, Мінска, іншых месцаў, а з 1993 г. збіраліся на Імшу і святы ў арэндаваных памяшканнях. І ўсе гэтыя гады не страчвалі надзеі на тое, што ў горадзе будзе пабудаваны касцёл, прасілі аб гэтым Пана Бога, імкнуліся зрабіць гэту мару рэальнасцю.

Месца для касцёла св. Францішка было асвечана ў дзень св. Францішка 4 кастрычніка 1997 г.

29 мая 1998 г. пачалі капаць катлаван пад будынак, а 12 жніўня закончылі мураванне сцен.

Усё гэта стала магчымым дзякуючы Богу і самаахвярнай працы айцоў-францішканаў: айца Аляксея і айца Сабяслава, дзякуючы законным сёстрам з ордэна св. Ядвігі: с. Назарыі, с. Даміяне і с. Самуэлі.

Адначасова з нашым будаваліся касцёлы ў Слуцку і ў Любані.

У Салігорск айцы-францішкане і законныя сёстры прыязджаюць са Слуцкага касцёла за 40 км, каб праводзіць занятkі па катэхізацыі з дзецьмі і дарослымі, каб рыхтаваць дзяцей да Першай Камуніі.

Дзякуючы намаганням сясцёр-законніц і айцоў-францішканаў выдадзены «Малітоўнік», «Рахунак сумлення» для падрыхтоўкі да добрай споведзі, арганізаваны касцельны хор, парафіяне ўдзельнічаюць у сусветным Ружанцы і супольным Ружанцы. Кожную суботу месяца праводзіцца Святая Імша, прысвечаная Маці Божай. Нашы сем'і вось ужо некалькі месяцаў наведвае невялічкая фігурка Маці Божай Фацімскай.

За ўсё гэта мы, парафіяне, дзякуем Пану Богу і нашым добрым святарам і законным сёстрам. Мы ўдзячныя нашаму пробашчу айцу Сабяславу таксама і за тое, што ён уласнымі рукамі зрабіў вітражы для касцёла, а да свята Божага Нараджэння — вельмі прыгожыя гіпсавыя фігуркі для касцёльнай шопкі.

Мы ўдзячныя ўсім ім, што дапамаглі нам перажыць доўгі, шматгадовы Адвэнт, час чакання і адчуць душой і сэрцам свята Божага Нараджэння.

Дзякуем і просім для іх Божага благаслаўлення, выказваем сваю павагу і шчырую любоў.

*По дарučэнні парафіянаў*
*Галіна НІКІЦІНА-АРЛОЎСКАЯ,*
*сябра брацтва святой Ядвігі.*



## У нумары




**Часопіс «Ave Maria»**
№ 3 (58) 2000

Заснавальнік — Мінска-Магілёўская архідыяцэзія

Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржкамітэце Рэспублікі Беларусь па друку

Рэгістрацыйны № 225.

Рэдакцыйная рада.

Надрукавана ў друкарні «НЭСІ», 220141 г. Мінск, вул. Жодзінская, 18.
Зак. . Наклад 9 500 экз.

Адрас рэдакцыі:
220030, г.Мінск, пл.Свабоды, 9, тэл./факс: (172)26 90 92

Архікатэдральны касцёл Імя Найсвяцейшай Панны Марыі.

Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.

Распаўсюджваецца бясплатна.


**Усе мы, што ўваходзім у святую браму надзвычайнага Юбілею, усклікаем:**
**Хрыстэ, прамаўляй да нас моваю Твайго Крыжа!**
**Прамаўляй заўсёды, а асабліва прамаўляй у гэтым Годзе! (...)**
**Учыні, каб у душах сучасных людзей знайшла сваю збаўчую моц мова Твайго Крыжа!**
**Няхай яшчэ раз Дабро акажацца мацнейшым за Зло.**

*Ян Павел II*